Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
## Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 47 (4796) 28 лістапада 2014 г.



Віно, Рагачоў, Караткевіч **6**



Паэт, падзелены на два **8**



За крок да перамогі **13**



Вогненным пэндзлем **14**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў рэдакцыі часопіса «Алеся» з 90-годдзем з дня заснавання. «Сёння «Алеся» — сучаснае выданне для жанчын, якія сумяшчаюць працоўную дзейнасць і актыўную грамадзянскую пазіцыю з традыцыйнай роляй клапатлівай маці і руплівай гаспадыні», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў калектыў выкладчыкаў і студэнтаў гістарычнага факультэта Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова з 80-годдзем з дня ўтварэння. «Упэўнены, што традыцыі факультэта, патрыятызм і адданасць справе дапамогуць вам у далейшым развіцці навуковых і навучальных кантактаў, павышэнні прэстыжу вашай ВНУ», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў Эміра Кустурыцу з 60-годдзем. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што творчыя планы выбітнага рэжысёра дадуць магчымасць рэалізаваць сумесныя праекты з Беларуссю, дзе яго добра ведаюць і цэняць.

✔ Перавыданне 25-томніка твораў Мікалая Чаргінца, які займаецца расійскае выдавецтва «Выдавецкая група «Эксмо», будзе завершана ў маі 2015 года. У кнігарнях Беларусі і Расіі ўжо можна набыць 10 тамоў твораў пісьменніка, у хуткім часе ўбачаць свет яшчэ тры кнігі. Творы папулярнага аўтара перакладзены на 14 моў свету. Яны станавіліся пераможцамі прэстыжных літаратурных конкурсаў Беларусі, Расіі, Балгарыі, Сербіі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Афганістана.

✔ У Парыжы адбылася прэм'ера балета «Кармэн». Аранжыроўка зроблена прафесарам Беларускай акадэміі музыкі Віктарам Войцікам, дэкарацыі выкананы па эскізах галоўнага мастака Нацыянальнага акадэмічнага аб'яднання Беларусі імя М. Горкага Алы Сарокінай.

✔ Магчымасці рэалізацыі сумесных праектаў паміж установамі культуры Беларусі і Міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Тэатра» ў галіне тэатральнага і сучаснага мастацтва абмеркаваны ў Парыжы падчас сустрэчы пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі з кіраўніком аб'яднання Фабрысам Карэем.

✔ Маладыя таленавітыя музыканты выступілі са справаздачным канцэртам на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Аматарам класічнай музыкі прадэманстравалі сваё майстэрства лаўрэаты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, пераможцы буйных міжнародных конкурсаў.

✔ У Белдзяржуніверсітэце ўпершыню прайшоў Рэспубліканскі конкурс мастацкага чытання на кітайскай мове. Арганізатарам выступілі кафедра кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта і Пасольства КНР у Беларусі.

✔ Сёння ў Магілёве пачынаюцца Сіманаўскія чытанні. У міжнародным літаратурным свяце бяруць удзел пісьменнікі з Беларусі і Расіі, грамадскія дзеячы, журналісты, гісторыкі, ветэраны вайны, прыхільнікі творчасці слыннага аўтара.

# Сустрэнемся ў Гомелі!



Фота Дзмітрыя Нябераа

Сёння ў Гомельскім абласным драматычным тэатры адкрываецца XII Міжнародны фестываль тэатральнага мастацтва «Славянскія тэатральныя сустрэчы». Паводле мастацкага кіраўніка Гомельскага драмтэатра Сяргея Лагуценкі, фестываль — цудоўнае свята, якое прапануе пазнаёміцца з лепшымі тэатральнымі калектывамі славянскага свету, убачыць выбітныя пастаноўкі, стаць сведкамі яркіх эксперыментаў. Удзельнікамі праграмы, якая працягнецца да 4 снежня, стануць тэатры з Брэста, Гомеля, Бранска, Калінінграда, Астаны, Кішынёва і Чарнігава.

*Сцэна са спектакля «Тэатр» Гомельскага абласнога драматычнага тэатра. Пастаноўка будзе прадстаўлена ў межах фестывалю.*

# Восень-пераможца

**Абласны фестываль «Лунінская восень» у сёмы раз сабраў «ураджай» на літаратурнай ніве Берасцейшчыны. Удзельнікаў днямі вітала сталіца свята — вёска Лунін Лунінецкага раёна.**

Урачыстасць пачалася ўскладаннем кветак да мемарыяльнай дошкі Мікалаю Еляняўскаму, пісьменніку, ураджэнцу Луніна і выпускніку мясцовай школы, аўтару шматлікіх публікацый і кніг, у тым ліку і грунтоўнага выдання «Час святара», прысвечанага аўтару беларускай граматыкі ў мініяцюрах канца XIX стагоддзя святару Платону Ціхановічу.

У межах фестывалю вучні правялі экскурсію па лунінскай школе. Адбыліся літаратурныя чытанні, каля помніка Якубу Коласу ў Лунінцы — мітынг-літмантаж...

У гарадскім Доме культуры ладзілася ўрачыстая цырымонія ўручэння літаратурных узнагарод. Гэтым разам лаўрэатамі літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка сталі Анатоль Шушко з Пінска за кнігу паэзіі «Шаны» і Анатоль Брытун з Брэста за кнігу прозы «Пах мускусу». Узнагароду за Уладзіміра Сітуху, які нядаўна пайшоў з жыцця, атрымалі жонка Тамара і дачка Алёна — за кнігу казак для дзяцей «Пра арэхі, сома і бабра».

А ў дзіцяча-юнацкім літаратурным конкурсе першае месца заняла Яўгенія Пракапчук (10 «В» клас СШ № 3 г. Ганцавічы) з падборкай выдатных вершаў. Другое месца падзялілі Ганна Жук (11 «А» клас СШ № 8 імя Героя Беларусі Уладзіміра Карвата, г. Брэст) і настаўніца з в. Сакалова Бярозаўскага раёна Алёна Папко, трэцяе — Максім Савіцкі (Пінскі дзяржаўны прафесійны ліцэй будаўнікоў), Алег Краўчук (Брашэвіцкая СШ Драгічынскага раёна) і метадыст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Ганцавіцкага райвыканкама Святлана Шушко (Кандратовіч).

Заахвочвальныя дыпломы, якія ўручаліся ўпершыню з часу заснавання конкурсу, атрымалі Анастасія Тарановіч (Пінскі дзяржаўны прафесійны ліцэй сельскагаспадарчай вытворчасці), Маргарыта Крыжаноўская (9 клас Яглевіцкай СШ Івацэвіцкага раёна), Крысціна Вярэніч (6 клас Косаўскай СШ Івацэвіцкага раёна), Настасся Хайко, (9 клас Крытышынскай СШ Іванаўскага раёна), Вікторыя Дзямковіч (6 клас Мотальскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад — сярэдняя школа Іванаўскага раёна) і Ягор Фадзееў (10 клас СШ № 1 г. Пінска). Цікавай атрымалася прэзентацыя берасцейскага нумара часопіса «Маладосць», у якім змешчаны творы пераможцаў конкурсу Алёны Папко і Яўгеніі Пракапчук, а таксама Уладзіміра Сітухі.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ**

***У Саюзе пісьменнікаў Беларусі***



*Фота Наталлі Асмола*

*Чынгіз Аліаглу.*

# Дарогі вядуць да Азербайджана і Арменіі

Літаратурныя стасункі Саюза пісьменнікаў Беларусі з рознымі краінамі свету навідавоку. Міжнародная дзейнасць з самага пачатку работы СПБ займае значны аб'ём працы і год ад году істотна пашыраецца. Пра гэта сведчаць многія факты, якія датычаць літаратурнага пабрацімства.

З нядаўняга — прыём і ўручэнне білетаў членаў СПБ вядомаму азербайджанскаму паэту і перакладчыку Чынгізу Аліаглу і старшыні Саюза пісьменнікаў Арменіі, паэту, дзіцячаму пісьменніку Эдварду Мілітаняну. Адзнакі не выпадковыя. Чынгіз Аліаглу яшчэ раней быў узнагароджаны медалём СПБ «За вялікі ўклад у літаратуру». Часта ў беларускім друку з'яўляюцца пераклады твораў азербайджанскага і армянскага пісьменнікаў. Над гэтым у апошні час працуюць Мікола Мятліцкі, Таццяна Сівец, Рагнед Малахоўскі, Віктар Гардзей, Навум Гальпяровіч ды іншыя беларускія перакладчыкі. Віншуючы калег з уступленнем у СПБ, яго старшыня Мікалай Чаргінец заўважыў, што ў беларускай пісьменніцкай грамадзе нямала літаратараў, якія прадстаўляюць іншыя краіны: Балгарыю, ЗША, Літву, Расію… Сярод іх — Вітаўтас Жэймантас, Яронімас Лауцюс, Ато Хамдам ды іншыя. Сустрэча з азербайджанскім і армянскім пісьменнікамі стала падставай для абмеркавання будучых дамоў і пагадненняў Саюза пісьменнікаў Беларусі з творчымі аб'яднаннямі гэтых краін.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

***Падпіска-2015***

# Толькі два тыдні!

З 1 па 15 снежня «Белпошта» і Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» праводзяць сумесную акцыю па прыёме падпіскі па льготных коштах.

Такім чынам, падпіска на газеты складзе:

**«Літаратура і мастацтва»** (падпісны індэкс — 638564) — 28 600 руб.

**«Звязда»** (падпісны індэкс — 638504) — 56 150 руб.

На часопісы:

**«Нёман»** (падпісны індэкс — 749684) — 29 350 руб.

**«Полымя»** (падпісны індэкс — 749854) — 29 000 руб.

**«Маладосць»** (падпісны індэкс — 749574) — 26 150 руб.

**«Вожык»** (падпісны індэкс — 748444) — 26 300 руб.

**«Родная прырода»** (падпісны індэкс — 749264) — 44 850 руб.

**«Алеся»** (падпісны індэкс — 749954) — 23 350 руб.

**«Бярозка»** (падпісны індэкс — 748224) — 19 250 руб.

***У абласных аддзяленнях СПБ***

# На юбілей Перамогі

Прайшло чарговае пасяджэнне савета Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Прынята рашэнне аб увядзенні ў склад савета Рагнеда Малахоўскага, Ірыны Карнаухавай, Алены Стэльмах, Таццяны Атрошанка, Таццяны Хмель (як прадстаўніка Мінскага аблвыканкама). Разгледзена шэраг пытанняў, звязаных з пашырэннем прасторы для друкавання твораў пісьменнікаў Міншчыны. Зацверджаны план работы абласнога аддзялення на найбліжэйшы год.

Асноўны акцэнт у мерапрыемствах зроблены на 70-годдзе Вялікай Перамогі. Абмеркаваны змест калектыўнага зборніка твораў празаікаў, паэтаў, публіцыстаў Міншчыны да юбілейнай даты. Рукапіс кнігі здадзены ў друк і хутка пабачыць свет. Выступалі Вольга Савасцюк, Валянціна Гіруць-Русакевіч, Зіновій Прыгодзіч, Рагнед Малахоўскі, Леанід Крыванос, Таццяна Якаўлевіч, старшыня Мінскага абласнога аддзялення СПБ Алесь Карлюкевіч.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Агульнаю мовай

Пасяджэнне секцыі «Руская мова ў культуры і мастацтве» прайшло ў Доме Масквы ў Мінску ў межах Міжнароднай практычнай канферэнцыі «Руская мова — мова міжнацыянальных зносін».

Вёў пасяджэнне сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Максім Замшаў. Выступіў на канферэнцыі і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, які зазначыў, што дзейнасць Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравана на супрацоўніцтва з Саюзам пісьменнікаў Расіі, з Міжнародным супольніцтвам пісьменніцкіх саюзаў, распавёў пра сумесныя форумы, святы, літаратурныя праекты ў межах працы Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

Перад удзельнікамі канферэнцыі выступіў расійскі празаік Уладзімір Лічуцін, які распавёў пра негатыўную з'яву — засмечванне і спрашчэнне рускай мовы ў творах некаторых сучасных пісьменнікаў Расіі, падкрэсліўшы, што мова — аснова культуры. Літаратар адказаў і на шматлікія пытанні прысутных.

**Павел КУЗЬМІЧ**

***Беларусь — Кітай***

# Строфы Паднябеснай

Літаратурны вечар, прысвечаны паэзіі Кітая, прайшоў у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Падчас імпрэзы адбылася прэзентацыя двух паэтычных зборнікаў: «100 выбраных лірык Лі Бая» і «100 выбраных вершаў дынастыі Тан», якія сёлета пабачылі свет у выдавецтве «Адукацыя і выхаванне» пры падтрымцы Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.

Пра пераклад вершаў з кітайскай на рускую і выданне кніг парупіўся выкладчык Белдзяржуніверсітэта, паэт, перакладчык і майстар кітайскай каліграфіі Лі Цзо. Нарадзіўся творца ў 1957 г. у Пекіне. У 1983-м скончыў факультэт рускай мовы Пекінскага педагагічнага ўніверсітэта, а затым больш як 20 гадоў выкладаў рускую мову ў Пекінскім універсітэце шляхоў зносін. За пераклады асобных твораў рускіх і савецкіх паэтаў Лі Цзо атрымаў узнагароду на ўсекітайскім конкурсе перакладу з рускай мовы на кітайскую, а за каліграфічныя работы ганараваўся на ўсекітайскіх конкурсах каліграфіі.

Вядучы вечарыны, артыст і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі, распавёў: у эпоху дынастыі Тан (VIII ст. н. э.) пачаўся эканамічны і культурны росквіт Кітая. А паэтаў, якія плённа тварылі ў той час, у краіне было каля дзвюх тысяч! Асабліва ж сярод іх вылучаліся два імені: Лі Бай (Лі Бо) і яго сябар Ду Фу.

Кітай скаланалі войны, і Лі Бай ды Ду Фу не маглі не адлюстраваць неспакойны час у сваіх творах. Аднак калі першы быў у большай ступені падарожнікам-аскетам, які хацеў навучыцца мастацтву сузірання сусвету, то другі меў роднасныя сувязі з прадстаўнікамі дынастыі, вышэйшых органаў улады. Лі Бая падарожжы прывялі ў імператарскі палац. Па запрашэнні імператара ён стаў прыдворным паэтам, але з-за свайго вольналюбівага характару менш як праз два гады быў выгнаны з палаца. «Выгнаны сянь» — так ён называў сам сябе (слова «сянь» мае двайное значэнне: «падзвіжнік, аскет» або «чарадзей, маг»).

А. Вінярскі прадэкламаваў вершы Лі Бая ды Ду Фу, пераствораныя па-руску спадаром Лі Цзо.

Кітайская літаратура грунтуецца на павазе да чалавека, асобы. Уменне знайсці ва ўнутраным свеце асобы найтанчэйшыя струны і перадаць іх у строфах — вось галоўная заслуга паэта. І вельмі актуальна прагучалі ў кантэксце сустрэчы словы вялікага філосафа Канфуцыя, прыгаданыя дырэктарам Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Белдзяржуніверсітэта, загадчыкам кафедры мовазнаўства і краіназнаўства Усходу, доктарам філалагічных навук прафесарам Аляксандрам Гардзеем: «Калі вучыцца і не думаць — апынешся ў невуцтве, а калі думаць, але не вучыцца, — апынешся ў небяспецы».

**Яна ЯВІЧ**

# Прынятыя ў СПБ



**Вячаслаў Барысавіч ВАРЛАМАЎ**

*Секцыя прозы*

Нарадзіўся 4 верасня 1933 года ў г. Сызрань Куйбышаўскай (цяпер Самарскай) вобласці Расіі. Скончыў Сталінградскае суворўскае ваеннае вучылішча, Сарагаўскае пяхотнае вучылішча і Ваенную артылерыйскую інжынерную акадэмію імя Ф. Э. Дзяржынскага (г. Масква). Служыў на розных пасадах у вайсковых часцях, дыслацыраваных у Беларусі. Пасля звальнення ў запас працаваў ваенным кіраўніком у ПТВ № 9 г. Мінска, інспектарам пачатковай ваеннай падрыхтоўкі ўпраўлення прафтэхадукацыі і ўпраўлення народнай адукацыі Мінгарвыканкама, метадыстам Мінскага гарадскога вучэбна-метадычнага кабінета і Мінскага гарадскога істытута ўдасканальвання настаўнікаў.

Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». Аўтар чатырох вучэбна-метадычных дапаможнікаў па дапрызыўнай падрыхтоўцы і кніг прозы «Честь погон» (2010), «Мужество» (2014).



**Тамара Пятроўна БУНТА**

*Секцыя дзіцячай літаратуры*

Нарадзілася 21 красавіка 1959 года ў г. Маладзечна Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працавала карэспандэнтам часопіса «Армія» і газеты «Во славу Родины», намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Алеся», галоўным рэдактарам гэтага выдання. Аўтар кнігі прозы для дзяцей «Белое облачко» (2014).



**Дар'я Станіславаўна ЛОСЕВА (ЛЁСАВА)**

*Секцыя паэзіі*

Нарадзілася 13 чэрвеня 1985 года ў Мінску. Скончыла Мінскі дзяржаўны каледж мастацтваў і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Працавала навуковым супрацоўнікам і старшым навуковым супрацоўнікам аддзела навуковай асветы Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Цяпер — вядучы архівіст Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Аўтар зборніка вершаў «Туга зямная» (2012). Суаўтар шэрагу калектыўных зборнікаў. Асобныя творы перакладзены на балгарскую мову.

# Свята маладосці ды паэзіі

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ і грамадская культурна-асветніцкая арганізацыя «Наша Русь» правялі ў сталічным Доме Масквы свята маладой паэзіі Беларусі.**

Старшыня МГА СПБ і вядучы імпрэзы Міхась Пазнякоў расказаў прысутным пра разнастайную работу з юнымі літаратарамі, творчыя конкурсы, выданне твораў пачынаючых літаратараў, прадставіў аўдыторыі юных паэтэс — удзельніц свята.

З вялікай цікавасцю прысутныя паэтычнага слова слухалі вершы лаўрэатаў гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных паэтычных конкурсаў Людмілы Клачко і Кацярыны Масэ. У 23-ы гады Людміла стала членам СПБ, мае публікацыі ў салідных беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх выданнях. Напісала дзве кніжкі вершаў. Кацярыне толькі сямнаццаць, але пра яе ўжо расказвалі тэлебачанне і радыё. Неўзабаве ў аўтара выходзіць другая паэтычная кніга. Абедзве дзяўчыны актыўна ўдзельнічаюць у творчым жыцці, часта выступаюць перад чытачамі.

Прыемна здзівілі слухачоў студэнткі Белдзяржуніверсітэта Наталля Баламут і Таццяна Купрыянец — лаўрэаты гарадскога і ўніверсітэцкага літаратурных конкурсаў. Іх вершы надрукаваны ў пятым нумары часопіса «Белая Вежа» за 2014 год.

А яшчэ на свяце прагучалі песні на вершы беларускіх і рускіх паэтаў у выкананні заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, вядомага кампазітара Алега Чыркуна і барда Алены Маслоўскай.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Трэцяя рэальнасць

**Па-новаму зірнуць на з'яву фатаграфіі запрашае выстаўка фатографа, эсэісткі, выкладчыка Вольгі Бубіч «Дзесьці і зноўку тут», якая адкрылася ў музеі-майстэрні З. І. Азгура.**



*Вольга Бубіч на адкрыцці выстаўкі.*

На экспазіцыйных стэндах — адмысловыя турыстычныя здымкі гарадской прасторы, аздобленыя фрагментамі рэальных геаграфічных карт і каляровымі канцылярскімі кнопкамі-фішкамі. Гэтыя незвычайныя атрыбуты ілюструюць бачанне рэальнасці аўтарам: у горада няма межаў, ён можа «здарыцца» дзе заўгодна, паўтараючыся ў дэжавю дэталей і адчуванняў.

Праект «Дзесьці і зноўку тут» прадстаўлены ў Беларусі ўпершыню. Да гэтага ён быў паказаны ў фармаце персанальнай выстаўкі В. Бубіч у маскоўскім кінатэатры «Кругавая панарама».

— Гэта першы супольны праект Вольгі Бубіч з музеем З. І. Азгура, — распавёў галоўны захавальнік фондаў Генадзь Савохін. — Творчасць Азгура ўрбаністычная, таму адзін з кірункаў, цікавых для развіцця музея, — урбаністычнае мастацтва. Вось у гэтым мы з Вольгай і знайшлі агульнае: пераасэнсаванне гарадской прасторы. Мы бачым фатаграфіі з калажнай тэхнікай, а таксама своеасаблівы мэпінг.

Панарама Берліна разгортваецца на слайдзе відэапрэзентацыі, віды Рыма, Барселоны, Галандыі прыцягваюць са стэндаў. Фатаграфіі — плён вандровак мастачкі за апошнія 5 год. Глядзім на здымак — і не ведаем, што перад намі Венецыя. Аказваецца, гэта не так і важна.

— Праглядаючы ўсе назапашаныя з падарожжаў архівы, прыйшла да высновы, што на самай справе няма ніякага значэння, якія месцы ты наведваеш, — адзначае Вольга Бубіч. — Адна і тая ж фатаграфія можа быць зроблена дзе заўгодна. Свет розны, але адначасова і аднолькавы. Усе месцы, усе фрагменты горада — гэта той самы горад. Усе гарады — гэты мы. Фатаграфія — цікавы спосаб фіксацыі рэальнасці. Але існуюць яшчэ і выяўленчае мастацтва, і картаграфія. Карта — таксама спосаб мадэлявання горада. І ў сваім праекце я паспрабавала адлюстраваць гэтыя дзве рэальнасці. А трэцяя пераносіць нас у 3D...

І сапраўды, фрагменты карт, фішкі — розныя спосабы адкрыцця наваколля. Фатаграфія выходзіць за межы фіксавання рэальнасці і выступае інструментам для разваг, стымулам дыялогу з гледачом.

— Гэта фатаграфія, якая набліжаецца да арту, — патлумачыла Вольга Бубіч.

Гібкасць мыслення мастачкі прыцягнула шмат цікаўных гледачоў. На ўрачыстым адкрыцці выстаўкі было людна. Слова бралі сябры творцы, калегі, у прыватнасці фатограф, рэдактар інтэрнэт-часопіса сучаснай фатаграфіі «Imbalance» Саша Салдатава, фатограф Мар'яна Карповіч-Сакалова.

**Наталля СВЯТЛОВА, фота аўтара**

*Мерыдыяны лучнасці*

# Дыялог з Лонданам

**Міжнародныя фестывалі славянскай паэзіі — адна з самых прыкметных з'яў сучаснага культурнага жыцця Еўропы. Яны рэгулярна праводзяцца ў Польшчы, Расіі, Балгарыі, Сербіі, апошнім часам і ў Вялікабрытаніі.**

Ініцыятар і арганізатар фестываляў у Польшчы і Туманным Альбіёне — польскі паэт, перакладчык і выдавец Аляксандр Наўроцкі. Дапамагае яму жонка Барбара Юркоўская-Наўроцкая. Дарэчы, пані Баша, як пяшчотна называюць яе сябры, яшчэ і таленавітая паэтэса ды перакладчыца.

Намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Любоў Красеўская, адзіная прадстаўніца нашай краіны на II Фестывалі славянскай паэзіі ў Лондане, пазнаёмілася і пасябравала з гэтай творчай сям'ёй падчас візіту Наўроцкіх на Берасцейшчыну. Любоў Мікалаеўна суправаджала польскіх гасцей па мясцінах, звязаных з Тадэвушам Касцюшкам. Вось тады Наўроцкія і запрасілі яе як ганаровую госцю на лонданскі паэтычны фестываль.

Аляксандр Наўроцкі актыўна прапагандуе славянскую паэзію не толькі ў Польшчы, але і ў многіх іншых краінах Еўропы. Ён шмат перакладае з рускай, балгарскай, украінскай, сербскай моў, а таксама польскую паэзію на іншыя славянскія мовы. За творчыя дасягненні і папулярызацыю славянскай літаратуры ў 2008 і 2010 гадах быў узнагароджаны прэміяй балгарскай Славянскай акадэміі літаратуры і мастацтва, у 2000-м — польскім Залатым Крыжам Заслугі.

Фестываль праходзіў у Доме польскім — у самым цэнтры Лондана. Сюды з'ехаліся ўдзельнікі з усяго свету: пісьменнікі, грамадскія дзеячы, літаратурныя агенты, крытыкі, выдаўцы, прадзюсары, арганізатары літаратурных прэмій і конкурсаў з Балгарыі, Літвы, Арменіі, Сербіі, Расіі і — упершыню! — з Беларусі. Любоў Красеўская, ураджэнка Краснаярскага краю, з 1989 года жыве ў Брэсце. У 2006-м выбрана намеснікам старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ, а з 2010 года — намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства». На лонданскім фестывалі яна распавяла пра Беларусь, дзейнасць Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза ПБ, прачытала свае вершы.

У кожнай краіне, прадстаўнікі якой удзельнічалі ў фестывалі, плануюцца сумесныя міжнародныя зборнікі паэзіі.

**Вячаслаў БУРДЫКА**

# Рыжскія Дзяды

Сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры «Світанак» запрасілі на восеньскія Дзяды гасцей з Беларусі — Алену Масла і аўтара гэтых радкоў, якія падчас творчай сустрэчы з латвійскімі беларусамі прадставілі дзве кнігі, выдадзеныя сёлета ў Мінску: зборнік латышскіх народных казак «Добрыя лекі» ў перакладах Пятра Масальскага (яго, на жаль, ужо няма сярод нас) і энцыклапедычны даведнік «Сузор'е беларускага памежжа».

У «Сузор'і...» больш як 1600 прозвішчаў беларусаў, у тым ліку сяброў «Світанка», Аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі «Маю гонар» і інш.

Мастак Вячка Целеш і аўтар гэтых радкоў распавялі пра кнігу «Сузор'е беларускага памежжа», рэдактарам якой выступіў беларускі публіцыст, прафесар Адам Мальдзіс. Завіталі на імпрэзу і некаторыя з тых, хто згаданы ў гэтай кнізе. Так, доктар фізіка-матэматычных навук, перакладчыца Наталля Цімаховіч ніколі не была на гістарычнай радзіме, але выдатна гаворыць па-беларуску.

Гучалі імёны многіх выбітных беларускіх дзеячаў Латвіі, якіх ужо няма ў жывых: паэта Эдварда Вайвадзіша з-пад Індры, Веры Вайцюлевіч, якая пісала пад псеўданімам Вера Гаротная. Лёсавызначальнай для яе стала сустрэча з Янам Райнісам, дзякуючы якой быў выдадзены яе першы паэтычны зборнічак: пяць вершаў у дзвюх версіях — па-беларуску і ў перакладзе на латышскую.

Згадваліся Кастусь Езавітаў, які, апынуўшыся ў Латвіі, распачаў культурна-асветніцкую дзейнасць сярод этнічных беларусаў, Леанід Коваль, Барыс Кастаненка ды многія іншыя.

А Пятру Масальскаму (як паэт ён вядомы пад псеўданімам Пятро Сакол) была прысвечана асобная частка праграмы. У наступным годзе споўніцца 110 гадоў з дня нараджэння творцы. А летась у серыі «Казачны свет» выйшла кніга латышскіх народных казак у яго перакладзе, аздобленая выдатнымі ілюстрацыямі Марыі Каратаевай.

Галіна Масальская, нявестка П. Масальскага, падаравала некалькі асобнікаў кнігі «Добрыя лекі» Рыжскай Беларускай асноўнай школе імя Янкі Купалы. Падчас сустрэчы з вучнямі школы рэдактар выдання, пісьменніца Алена Масла, зазначыла: гэта першая латышская дзіцячая кніга, выдадзеная ў Беларусі за апошнія 20 гадоў.

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Урок гісторыі

**У сталічнай бібліятэцы № 1 імя Л. Талстога адкрылася ўнікальная выстаўка, прымеркаваная да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Выдавецкі дом «Звязда» прадставіў больш як 20 арыгінальных нумароў баявога агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» са збору калекцыянера і гісторыка Уладзіміра Ліхадзедава.

Падчас імпрэзы галоўны рэдактар «Вожыка» Юлія Зарэцкая, вядучыя мастакі часопіса, карыкатурысты Аляксандр Каршакевіч і Сяргей Волкаў, распавялі прысутным гісторыю выдання, поўную падзей і славутых імёнаў. Паэт Уладзімір Мацвеенка, сведка вайны, падзяліўся ўспамінамі пра складаныя гады акупацыі, прачытаў уласныя вершы, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне.

Уважліва слухалі апавядальнікаў студэнты Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва імя М. Кедышкі. А напрыканцы сустрэчы прадставілі свае творчыя работы, якія былі высока ацэнены мастакамі выдання. Аляксандр Каршакевіч запрасіў малады творцаў да супрацоўніцтва з «Вожыкам».

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# «Бярозка» гастраліруе

Інтэрв'ю з Дар'яй Домрачавай, спеваком Тэа і заакіянскай зоркай Адамам Ламбертам, рубрыкі, прысвечаныя жахосцікам і падарожжам — гэта далёка не поўны спіс замоў ад патэнцыяльных чытачоў «Бярозкі», сабраны за мінулы тыдзень.

Цяпер рэдакцыя «Бярозкі» і «Маладосці» заўзята наведвае школы, гімназіі, бібліятэкі і г. д. з мэтай прадэманстраваць новую «Бярозку» і наладзіць зваротную сувязь з сябрамі-чытачамі па ўсёй краіне. Вучні восьмых класаў Мар'інагорскай гімназіі з энтузіязмам абмяркоўвалі з намі магчымыя шляхі развіцця часопіса, а ў канцы засыпалі пытаннямі самага рознага кшталту. Асабліва радасна, калі ўдаецца закрануць у душах падлеткаў, якія нас слухаюць, стрункі цікавасці да роднай мовы.

Наведалі бярозкаўцы таксама 23-ю гімназію і 15-ю бібліятэку Мінска, дзе чыталі школьнікам вершы, заахвочвалі да творчасці, распавядалі пра рубрыкі часопіса. Падчас сустрэч удалося назапасіць матэрыялу для будучага відэароліка пра «Бярозку».

Галоўны рэдактар Святлана Дзянісава паставіла своеасаблівы эксперымент, спытаўшы ў студэнтаў Інстытута журналістыкі БДУ і вучняў гімназіі № 30, пра што, на іх думку, распавядаецца ў рубрыцы «Гатавальня». Вучні адказалі адразу, а студэнты — не. І хай сабе: гэта сведчыць, што наша мэтавая аўдыторыя, школьнікі, нас разумеюць.

**Тамара САРАЧЫНСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**28 лістапада** — *у літаратурную гасцёўню «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 80) на творчую сустрэчу з маладой паэтэсай, лаўрэатам прэміі Саюзнай дзяржавы Маргарытай Латышкевіч. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**28 лістапада** — *на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**30 лістапада** — *у Цэнтральную бібліятэку Цэнтральнага дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3) на творчую сустрэчу з паэтам, празаікам, акцёрам тэатра і кіно Андрэем Душачкіным. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**3 снежня** — *на творчую сустрэчу з паэтам, празаікам, публіцыстам і радыёжурналістам Навумам Гальпяровічам, якая адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 14 (вул. Прытыцкага, 42). Пачатак у 12:30.*

**4 снежня** — *на XVII Мінскія паэтычныя чытанні. Мерапрыемства адбудзецца ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 14-й гадзіне.*

Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокія спачуванні Панасюку Мікалаю Васільевічу з выпадку смерці ЖОНКІ — Алесі Канстанцінаўны.

Мікола МЯТЛІЦКІ



***

Не былі мы ўсё ж на бяспамяцтва
хворымі,
І душэўны запал у грудзях не пагас.
Мы і сведкі, і творцы найноўшай
гісторыі, —
Суверэнны прыйшоў у рэспубліку час.

О, мая Беларусь! Ты між роўнымі —
роўная,
Хоць нялёгка жывеш — са свайго мазаля.
Хоць зруселая ўся, беларуска-бязмоўная,
Ты усё ж дарагое Айчыны зямля.

Не згубілі цябе прайдзісветы заўзятыя,
Не набілі кішэні і сейфы свае.
Мы — народ-маналіт, і жняцы, і аратыя,
Жыць у згодзе нам клёку і сёння стае.

На руінах сусветнай вайны
мы ўваскрошаны,
І таму добра ведаем міру цану.
Век прад намі ляжыць, быццам
луг недакошаны,
Дзень настане — і ён мільгане ў даўніну.

Хай пакіне зямлі памяць ён не крывавую,
Хай дагледзіць палі, узвядзе гарады,
І як мірны для нас, хай уквеціцца славаю,
Стане першым такім
над прадоннем бяды.

## Кітайскія паэты

Яны ішлі пуцінаю зямной
Праз зімы старажытныя і леты.
Мяняліся эпохі за спіной,
Ды не старэлі вечныя паэты.

Вазьмі любы іх томік
пагартай —
І творцаў даўніх зноў
праступяць лікі.
Яшчэ глыбей адкрыецца
Кітай, —
Вялікімі паэтамі вялікі!

***

Упраўна і слаўна
Прыйшла гаспадыняю восень.
Гасцінна і чынна
Сустрэлі яе сказам:
— Вось яна!

Самотна і цнотна
Праводзілі ў свету бязмежжа.
І зноў бель снягоў
Вочы блёсткамі рэжа.

І свету душа
Прасветлена ранішнім
сонцам.
І зыркне прамень
Наступнай вясны
абаронцам.

## Міколу Галавачу

Мной уявіўся скрушны плач
Па-восеньску самотных дрэў,
Калі пад імі Галавач
Грудзямі кулю перастрэў.

Шумеў наўсцяж лясны масіў,
Дрыжэлі вершаліны хвой,
Астудны вецер галасіў
Над акрываўленай жарствой.

Гады ігліцай замялі
Сцяжыну згубную аднак.
І вось ступае па зямлі
З бяссмертным
прозвішчам юнак.

Глядзіць уражліва на свет, —
Прынёс у «Полымя» радкі,
Сучаснік мой, юнак-паэт —
Натхнёны, светлы, трапяткі.

А мне здалося: з даўніх дзён,
Як жыццядайнасці парыў,
Не ён усё ж, а сам Платон
Рашуча дзверы прыадкрыў.

Стаіць, і яснымі вачмі
Глядзіць — і толькі сэрца грук.

І кажа збolена: «Вазьмі
І мною створанае ў друк!

Там, дзе зыбучая жарства,
Дзе карані-пляцёнкі дрэў,
Было ўсяго — не дзень, не два,
Я над радком сваім карпеў».

…І час другі, і век другі,
Гады пранесліся наўскач.
Не вершы — кропліны тугі
Прынёс ты, Коля Галавач.

***

Дом над ракою. Частаколам
Абнесены — пад ношай хмар.
Заўжды надпіты і вясёлы
Яго заезджы гаспадар.

У лазні хвацка парыць спіны
Чынуш нахабныя сыны.
Нібы з антычнае карціны
На бераг выбегуць рачны.

Свавольна плёскаюцца ў плыні,
Сячэ раздолле хлёсткі мат.
Яны з пялюшак —
на вяршыні,
Ім шчодры лёс падаў зашмат.

Усё ў лясную ціш спавіта,
Канцы схаваныя ў вадзе.
Гудзе мясцовая эліта,
Віруе плынь і час ідзе.

***

Іду наўзбоч дарогі
На строміну ракі,
Дзе хлопчык прытканогі
Бярэ баравікі.

Год стратны, высакосны.
Парыўны вецер б'е.
Камлістa ўсталі сосны,
Як і гады мае.

Пагляд з-за сосен строгі —
Мільгнецца мой двайнік.
Ён, хлопчык прытканогі,
Даўно са стромы знік.

Дзе пушча векавая
Дрымоціцца — услед
Яму з журбой ківае
Ужо нямоглы дзед.

Алёна ПАПКО



***

Дзён залатых радзее пазалота,
Спавітая букетамі тугі.
Жыццё святлее: хмаркамі маркота
Сплыла за дальніх
флотаў берагі.

І лашчыць твар з самоцінкай
усмешка,
Як промень парыжэлы, сенажаць.
Сны прыхавае да Купалля рэчка,
Чаго яшчэ шчаслівіцы жадаць?

І песня, што яшчэ не даспявана,
На вуснах не сасмагне праз гады.
Дзён залатых лагоднасць
незямная
Абудзіцца не раз пад
шум вады.

***

Чэрвень — далёка, а верасень — хутка,
Тупае ботамі дожджык драбнюткі.
Кастрычнік малюецца
жоўта-аранжавым,
Нехта спыняецца з марай
нясправджанай.

Наша жыццё, відавочна, кляновае
Са зменай падзей па-дзіцячаму новаю:
Падобна лістоце, жылі ў вышыні,
А зараз павінны крануцца зямлі.

Снежань чакае…
Павольнымі крокамі —
Завеяў спатканні пад цёплымі
вокнамі.
Нашы надзеі расквечаны Ніцаю,
Кавай гарачай з духмянай
карыцаю,

Сонечным джазам —
душа прагне музыкі!
Зашпільваем лёсу працёртыя гузікі.
І цудаў чакаем у дарослым сусвеце,
Якія з усмешкай вяртаюць
нам дзеці.

## Інакш

Не ратуй, не шкадуй,
Зрабі выгляд, што мы незнаёмы,
Тым больш — не раўнуй,
Няхай аберажэ цябе Божа
Ад такой высновы.
Прыйдзе дзень, калі наша памяць
Пераблытае падзеі,
І мы будзем пытацца адзін
у аднаго,
Адкуль гэты сон незразумелы?
Адкуль мы ведаем адзін аднаго?..
Паціснем плячыма, пахітаем
галовамі —
Разыдземся крыгамі ўтрапёнымі
У розных напрамках, па розных
праспектах,
А наша каханне працягне жыць
На чужых кіналентах.
Рэшта з яго для нас амаль анічога:
Дзесяць медных рублёў,
кінутых з паўслова
Рэжысёрам-лёсам.
Цыгарэтны дым…
Пешшу пакрочым да нябёсаў?

Не ратуй —
Час залечыць і вылечыць
нашы душы,
І мяне не шкадуй,
А інакш закахаешся
па вушы.

## Побач

Гэта была не я, а ранняя вясна,
Яна цябе абудзіла.
Пяшчотай сакавіцкай абняла,
Як каханага хлопца,
Пралескамі заваражыла.
Гурбы снегу ў душы растапіла.

Гэта была не я,
А зласлівае на дажджы лета,
Вярталася млява ў шырокім
космасе
Галея камета.
Відушна асвячала нашы
раскіданыя
Шляхі-дарогі,
А мы абяцалі больш
не абіваць
Шчасця парогі.

Гэтая была не я,
А барвовая ад чакання восень,
Пазалочаная, выдзьмутая холадам,
А мы ўсё адчайна цяпла
ў яе просім!
У вырай далёка ляцець
Птушкам і людзям аднолькава,
Відаць, каб цябе зразумець,
Трэба віна адпіць горкага.

Гэта была не я, а зіма,
Усё да пляча твайго тулілася,
Завеяй у лоб цалавала цябе,
Усявышняму тайна малілася.
Зіхацела сняжынкамі на далоні,
Якім, безумоўна, растаць!
Зіма — балерына да скроней,
Есць з каго прыклад браць.

Віктар САБАЛЕЎСКІ



## Першы снег

Ідзём бялюткай вуліцай.
Галовы ў плечы туляцца,
А на душы
святкуецца —
Вітаю першы снег!
Ляжыць ён з самай раніцы
І з сонейкам гуляецца.
Зіма зноў прачынаецца
І зноў бярэ разбег.

Мяці яшчэ, мяцеліца,
Няхай даўжэй
кудзеліцца
І нам пад ногі сцелецца
Бялюткі, чысты снег.
Над снежнымі прасторамі,
Машыннымі маторамі
Хвіліну ўжо каторую
Разносіцца
твой смех.

Прыкрый рот рукавіцаю
(Ды ну яе, з бальніцаю!)
І скокні маладзіцаю
У гэты белы снег.
З іскрыстымі
сняжынкамі
Калючкамі-смяшынкамі
І радасці іскрынкамі
Запомнішся
ты мне.

## Ты мне пазваніла

Зноў я чую голас мілы
І гарэзлівы твой смех.
Ты мне проста пазваніла
І прадоўжыла
мой грэх.

Галаву зноў закружыла,
Бы шампанскага глынуў.
Ты мне сёння пазваніла
І вярнула
мне вясну.

Я знайду, павер мне, сілы
Сваё шчасце заслужыць.
Першы раз ты пазваніла —
Весялей мне
стала жыць.

Хмары зніклі з небасхіла,
І між намі хмар няма.
Ты мне проста
пазваніла —
Бы з'явілася сама.

***

Мадам!
Гэты танец прысвечаны Вам!
Мадам!
За яго ўсё на свеце аддам!
Хай французскае
танга ўначы
Несціханым матывам гучыць.

Мадам!
Зноў у танцы так хораша нам!
Мадам!
За дзень гэты ўдзячны я Вам!
Хай французскае
танга для нас
Перапыніць прастору і час.

Мадам!
Мы нібыта ступілі ў храм.
Мадам!
Гэты танец запомніцца нам.
Хай французскае танга сюды
Прывядзе нас яшчэ
праз гады!

Мікола АДАМ

# Ішоў дождж



Ішоў дождж.

Хлюпаў пад нагамі.

— Заходзь, ваша благароддзе, — адчыніў драўляныя цяжкія дзверы ў склеп пажылы са срэбнымі доўгімі вусамі-сасулькамі, як у Тараса Бульбы, чырвонаармеец, падштурхоўваючы вінтоўкай з доўгім штырхом высокага маладога чалавека, босага, аброслага русявай барадой, у парваным пашкамутаным мундзіры з адным пагонам на правым плячы штабс-капітана.

Ярка бліснула маланка, на імгненне, нібы электрычным святлом, асвяціўшы перабіты востры нос зняволенага і стомленыя запалыя зялёныя вочы.

— Давай, давай! — штурхануў яго другі чырвонаармеец, малады, зухаваты, з сімпатычнай грыўкай і шчарбатым ротам. — Пенаты — самы цымус, — зарагатаў. — Адну ноч перакантуешся. Толькі вось прабачайце, пярынаў няма, ха-ха-ха.

Штабс-капітан спыніўся перад няроўнай, падгнілай дзе-нідзе лесвіцай, што вяла ў склеп.

Было халодна, але хоць не мокра.

Штабс-капітан падкурчыў пад сябе босыя ногі, памацаў звязеныя сутаргай пальцы — іх амаль не існавала. Здаецца, малады чырвонаармеец, сцягваючы з яго ног боты, запэўніў, што заўтра ні боты, ні пальцы яму не спатрэбяцца.

Зрэшты, ён і не разлічваў на літасць. Шкада, што не хапіла духу самому націснуць курок пісталета, прыстаўленага да скроні. У апошні момант зmaladушнічаў.

Не, відаць, ён бы застрэліўся, калі б не пазнаў у баявой камісаршы ў скуранцы і з маўзерам Аксану Корсак — дачку прафесара-гісторыка Корсака. Ён адразу пазнаў яе, яна яго — не.

Нават да допыце, калі ён стаяў перад ёй, прыніжаны, са звязанымі за спінай рукамі, калі ён прамовіў яе імя, якое, што ні кажы, шмат значыла для яго, на твары камісаршы не зварухнуўся ніводзін мускул.

— Назавіце сябе, — абыякавым, халодным, як зіма, голасам, вымавіла яна, нават не зірнуўшы на яго. А ён жа дзеля яе толькі, каб пабачыць, словам перамовіцца, здаўся ў палон сам, кінуў пісталет пад ногі таму вусатаму, што праводзіў разам з маладым яго сюды, у гэты склеп.

Кусаючы вусы, штабс-капітан, як і належыць афіцэру, назваўся, намагаючыся не страціць належнага тону ў голасе:

— Штабс-капітан N-скага уланскага палка Тадэвуш Шпакоўскі.

Аксана перабірала на стале паперы, тасавала іх, нібы карты. Шпакоўскі заўважыў, што адны і тыя ж паперы па некалькі разоў траплялі ў адно і тое ж месца: справа — налева і злева — направа.

Ён клікаў яе ў думках, каб хоць раз зірнула на яго, але Аксана так і не ўзняла вачэй.

— Расстраляць, — зноў, таксама халодна, як і раней, выдала загад.

Шпакоўскі не верыў сваім вушам: як яна, Аксана, змагла загадаць забіць яго?! А як жа каханне, якое было паміж імі да гэтай бязглуздай бойні, як жа тая ноч, калі Аксана шаптала такія ласкавыя словы, называючы яго «шпачком сваім любым»?! У такім разе, яму без розніцы, з кім і за каго ваяваць, абы бліжэй да Аксаны, але ж яго любая, на целе якой ён ведае кожную радзімку, кожную драпінку… сваёю рукой падпісала прыгавор аб яго знішчэнні! А ці ж ён вінаваты, што свет звар'яцеў? Белыя нейкія, чырвоныя, бальшавікі, манархісты… Ды гары яна сінім полымем, гэтая палітыка, пляваў ён на яе, абы толькі быць побач з Аксанай. Ён жа шукаў яе паўтара года ў гэтай незразумелай калатнечы, і вось… знайшоў.

За некалькі секунд прамільгнулі гэтыя думкі ў галаве Шпакоўскага. Ён нават не заўважыў, як некалькі чырвонаармейцаў падхапілі яго за плечы і павалаклі, як цялё на бойню, а ён усё глядзеў на Аксану, якая так і не ўзняла на яго сваіх вочак, корпаючыся ў паперах, як у пясочку малая дзяўчынка.

— Не зараз! — спыніў яе голас чырвонаармейцаў ужо на выхадзе. — На золку. Як развіднее.

І ўсё.

Аксана пашкадавала яго, падарыла лішнюю ноч жыцця, дала адтэрміноўку.

Што сталася з рамантычна-ўзнёслай наіўнай дзяўчынай у белай сукенцы і ў белым капялюшыку, якая захаплялася раманамі Тургенева і ведала на памяць усяго Блока? Куды падзеліся яе непадробныя чалавекалюбства і шчырая светлая анёльская ўсмешка? Мабыць, усмешка засталася, толькі зараз экіпіравалася ў бальшавіцкую тэрарыстычную кашулю з барвовай крыві. Што даказваюць адно аднаму бальшавікі і белыя? Упартасць ідэй, моцны характар, уласны гонар?..

Шпакоўскаму даўно надакучыла вайна. Сябры пазнаёмілі з прафесарам Корсакам і з яго дачкой. Ён закахаўся ў яе, пачалі сустракацца, кляцціся ў вечным каханні, абмяркоўваць літаратуру, музыку і мастацтва ўвогуле. Шпакоўскі ненавідзеў службу і мундзір — марыў стаць кампазітарам і вельмі любіў іграць паланэз Агінскага, які ў выкананні Шпакоўскага Аксана магла слухаць гадзінамі.

Раптоўны выклік у часць… Адступленне за Урал… Наступленне… Крывавае пабоішча і горы трупаў… П'яная оргія ў грамадзе казачак… Немінучая раптоўная смерць у акружэнні…

З жывых, відаць, ён застаўся адзін.

Толку з гэтага. Усё роўна расстраляюць. І не павераць ніводнаму слову. Зрэшты, Шпакоўскі і не збіраўся нічога тлумачыць і станавіцца на калені перад быдлам, каб яно зліта сцівілася. Не, Аксана — не быдла, быдла — астатнія.

Што ў бальшавізме магло спадабацца Аксане?

Шпакоўскі не ведаў.

Ужо і не хацеў ведаць, слухаючы музыку дажджу, якая нагадвала славуты паланэз. Ён уявіў дождж у вобразе мокрага вялікага чалавека ў чорным фраку, а зямлю — аграмадным пяніна, маланку — скрыпкай.

Рыпнулі дзверы. Скупое кастрычніцкае святло разанула, бы лязом, па вачах. Інстынктыўна Шпакоўскі закрыў твар рукамі, працёр кулакамі вочы, якія заслязіліся.

— На выхад! — загадаў малады чырвонаармеец.

Марудна, адчужана Шпакоўскі падымаўся па ненадзейнай лесвіцы. На адной прыступцы нага праваліласа, бы ў твань.

— Доўга цябе чакаць! — злаваўся чырвонаармеец.

— Сціхні ты! — пачуў Шпакоўскі пажылога. — На смерць ідзе чалавек.

Шпакоўскаму зноў закруцілі рукі, павялі за сцяну хаты, дзе дапытвалі. На ганак у адной гімнасцёрцы выскачыла Аксана — растрапаная, з чырвонымі ад бяссоння вачыма.

На імгненне іх позіркі сустрэліся.

Аксана першая апусціла вочы, шмыгнула назад, за выратавальныя дзверы.

— Шалёная баба! — заўважыў малады чырвонаармеец.

— Неблагі чалавек, — адказаў пажылы.

Дождж імжэў хлёсткімі касымі іголкамі. Яны ўпіваліся ў твар і, здавалася, тырчэлі, як стрэлы, некалькі такіх іголак трапіла Шпакоўскаму ў вочы. «Каб аслепнуць». Але ён не аслеп. Дажджавыя іголкі бяспечныя для жыцця і няварты ўвагі.

— Прытармазі! — рагатнуў малады. — Бач, разагнаўся! Ногі, іць, у нас не казённыя! Станаві тутака, да сцяны.

«Вось і ўсё», — уздыхнуў Шпакоўскі, зірнуўшы на змрочнае шэрае неба, такое ж абыякавае, як і чырвонаармейцы, якія зараз расстраляюць яго, зробяць сваю справу і вернуцца дапіваць законныя 200 грамаў гарэлкі, за якімі раскажуць адзін аднаму новыя анекдоты.

Толькі не будзе болей Шпакоўскага, штабс-капітана царскай арміі.

«Чаго ты марудзіш?» — злаваўся Шпакоўскі на маладога чырвонаармейца, які ўсё ніяк не мог прыцэліцца і тым самым выводзіў з сябе штабс-капітана.

— Стаяць! — пачуўся загадны голас Аксаны, якая спяшалася да іх у накінутай наспех скуранцы, у ботах, з якіх тырчэў цікаўным зайчанём шкамуток парцянкі. — Стаяць! — крыкнула яна яшчэ раз.

Чырвонаармейцы пераглянуліся, павесілі вінтоўкі на плечы.

Не спыняючыся, паўз чырвонаармейцаў Аксана, бальшавіцкі камісар, падбегла да Шпакоўскага, павісла на яго шыі, пакрываючы пацалункамі і слязьмі.

Чырвонаармейцы ў непаразуменні пазіралі на свайго камісара і ламалі галовы, што з ёй сталася раптам.

— Адно слова — шалёная! — падсумаваў малады.

Аксана абяцала Шпакоўскаму зараз вярнуцца, толькі каб ён пачакаў, яна ўжо дакладвала начальству пра яго, яны праверацъ яго, і ён будзе жыць, толькі трэба пачакаць…

— Я ўсё зразумеў, — сказаў Шпакоўскі. — Галоўнае, што мы зноў разам.

— Я хутка. Ты пачакай, — прашаптала Аксана і загадала чырвонаармейцам ахоўваць палоннага, ні ў якім разе не расстрэльваць, пабегла ў хату.

На ганку яе спыніў дзікі крык:

— Белыя!!!

Застракатаў кулямёт. Крык абарваўся, як шматок тканіны па шве.

Трывожна Аксана азірнулася назад, туды, дзе пакінула Шпакоўскага.

Штабс-капітан павольна асядаў па сцяны, кашуля на грудзях і на плячы набрыняла крывёю, з левай скроні сцякаў струменьчык, нібы сок з гладыша.

Чырвонаармейцы, пакінутыя ёю ахоўваць зняволенага, залеглі і адстрэльваліся.

Але яна не бачыла іх. Не чула, як некалькі разоў яе аклікалі, адмахнулася ад некага. Перад вачыма стаяў жывы, высокі, прыгожы, з русявай барадой афіцэр у залатых пагонах.

— Та-а-а-дзік! — закрычала Аксана, кінуўшыся да мёртвага Шпакоўскага.

Яна схілілася над яго тварам, абліваючы слязьмі. Мёртвымі, невідушчымі здзіўленымі вачыма ён пазіраў на яе.

— Таварыш камісар! — торгаў Аксану за нагу малады чырвонаармеец. — Таварыш камісар! Трэба адыходзіць!

— Не так! — адсунуў яго пажылы. — Не бачыш? Каханне ў іх!

Пажылы падхапіў Аксану на рукі, перакінуў цераз плячо млявае, абыякавае да ўсяго дзявочае цела, выняў з кабуры яе маўзер — адстрэльвацца. Малады чырвонаармеец з двух вінтовак прыкрываў спіну старэйшага таварыша.

А дождж ішоў.

# Стаўроў

— …Ты баягуз Стаўроў!

— Я не баягуз! — крыкнуў Стаўроў і павярнуўся тварам да жанчыны, але за ёю ўжо бразнулі дзверы так моцна, што, здавалася, захісталася хата і вось-вось страха з'едзе з крокваў, як карабель — на ваду. Касынка жанчыны мільганула ў акне, як Лятучы Галандзец — у моры, і знікла. — Не баягуз я! — зноў крыкнуў Стаўроў, пабіўшы аб дзверы люстэрка на падстаўцы, перад якім толькі што пачынаў галіцца. Шкло пырснула сейвам асколкаў. Разляцеліся як прусакі, спуджаныя нечаканым выбухам святла пасярод чорнай ночы.

Стаўроў сеў за стол, абхапіў галаву рукамі, шморгнуў носам, абцёр нос тыльным бокам далоні знізу ўверх, заплакаў. Нячутна. Адным вачыма.

Стаўроў думаў. Дакладней, намагаўся думаць, бо нервы разышліся не на жарт, і каб схапіць іх жалезнаю рукой і напяць, нібы нітку ці ляску, трэба было сканцэнтравацца і адключыцца ад усяго пабочнага.

Рыпнулі весніцы. Стаўроў рэзка павярнуўся на гук, мяркуючы, што вярнулася Еўдакія — жонка. Аднак жонкі не ўгледзеў — увогуле нікога не ўбачыў. Весніцы рыпнулі самі ці прабег кот.

Стаўроў падышоў да камода, але адчыніць яго не змог. Дзе знаходзіўся ключ да яго, ведала толькі Еўдакія. Ну, нічога. Можна абысціся і без камода.

Узброіўшыся ваксай і шчоткай, Стаўроў закінуў спярша на табурэтку адну нагу ў хромавым боце, давёў да бляску, затым — другую.

Боты блішчэлі, як люстэрка: хоць глядзіся ў іх.

Пагаліўшыся, Стаўроў зноў сеў за стол, закурыў беламорыну. У вакне яшчэ раз мільганула касынка Еўдакіі. На секунду затрымалася ля вакна, нібы какетлівая куртызанка, дэманструючы свае чорныя і белыя бобкі. Як бы спахапіўшыся нечага, касынка знікла, быццам яе гаспадыню нехта схапіў за ногі і рыўком пацягнуў уніз. Прынамсі, такое ўражанне склалася ў Стаўрова.

Курыў. Забыўшыся, што ён не проста Стаўроў. Гвардыі капітан артылерыйскага чырванасцяжнага палка 216-й дывізіі генерала Кутайсова!

Не, ён не забыўся. Гэта немагчыма забыць. Ці можна ж забыць першае каханне? Вось так і гэта.

Стаўроў скончыў артылерыйскую вучэльню акурат перад вайной. Нават паспеў ажаніцца. Не з Еўдакіяй. З ёю пазней. З «дамачкай», як называлі сябры-студэнты жанчын шляхетнага паходжання ці, па-простаму, дачок розных інтэлігентаў-прафесараў, якім больш за 25 і чыя разбэшчанасць Бальзакавым Тарпілем і не снілася. На самай справе Стаўроў як мужчына быў увогуле не патрэбны Маі, Маі Уладзіміраўне. Яна выкарыстоўвала яго і ягонае прозвішча, асабліва ў дні вайны, каб атрымліваць цукар і іншыя прадукты харчавання і спекуляваць таварам на карысць свайго бацькі, які выдатна сумяшчаў і пасаду яе каханка. Стаўроў пасля даведаўся, што бацька той быў Маіным айчымам.

Але тады Стаўроў нічога не ведаў. Даведаўшыся, толькі пакруціў пальцам ля скроні і без усялякіх крыўдаў развітаўся. Вядома, Мая Уладзіміраўна заклікала яго застацца з ёю, пашкадаваць яе, бо штамп у пашпарце сведчыць пра шлюб са Стаўровым.

У палку ён сутыкнуўся з Еўдакіяй, зусім дзяўчом яшчэ, але вельмі адчайнай і дзёрзкім. Мабыць, таму кулі абміналі яе за кіламетр.

Пасля вайны яны распісаліся.

Крыху падлячыўшыся (у Стаўрова былі навылёт прастрэлены грудзі), ён апынуўся перад дылемай: куды падацца? З аднаго боку, яму загадвалі, як камуністу, неадкладна выязджаць на цалінныя землі, з другога — таксама неадкладна і як камуністу спяшацца ў лясы Украіны вылоўліваць недабітых фашысцкіх паслугачоў.

Стаўрову дазволілі выбар. Ці першае, ці другое. Ён абраў першае, палічыўшы, што ўжо наваяваўся, хопіць.

Затое Еўдакія прыняла рашэнне ў штыкі. Дасюль есць яго поедам.

Бясспрэчна, голы стэп і стэпавыя рыжыя ваўкі — незайздроснае вiдовішча, але стэп і ваўкі не страляюць.

Еўдакіі ж не падабалася цішыня. І абрыдла бяспека. Яна жадала адчуваць кіпенне крыві падчас пагоні, стрэлаў і подыху смерці ля вушэй, а не калупацца ў свінарніку, ці ў кароўніку ці на градзе з матыкай. Ёй хацелася зноў адчуваць халодных мурашоў на скуры… На дварэ мурашоў тых колькі заўгодна, хоць гарачых, хоць халодных, ды такіх вялікіх і чырвоных!.. Стаўроў ніколі раней такіх не бачыў. Аднойчы ён сказаў пра яе мурашоў, дык праз дзве хвіліны пашкадаваў, што ўвогуле пачаў гаворку. Баявая яго жонка, як запраўскі каўбой, выхапіла з халяваў бота «ТТ» і прыставіла да яго скроні.

А сёння абазвала баягузам.

На тым участку, дзе яшчэ пастрэльваюць, прынамсі, у Карпатах, забілі брата Еўдакіі з жонкай і трыма маленькімі дзеткамі, як сям'ю камісара. Паехаў на сваю галаву.

Вядома, каму зараз хочацца паміраць, калі вайна адгрымела, апроч, відаць, яго, Стаўрова, Еўдакіі…

Аднак гэта не азначае, што Стаўроў — баягуз, і Еўдакіі трэба выбіраць словы.

Яшчэ раз рыпнулі весніцы. Перад тым, нібы снег пад нагамі, абурана варухнулася шкло. Стаўроў выйшаў на двор.

— Ты куды гэта падаўся? — дагнаў Стаўрова голас Еўдакіі.

— На кудыкіну гару, — адказаў ён.

«Я вам усім дакажу!» — шаптаў ён словы, а рука шчыльна сціскала пісталет у кішэні галіфэ.



**Прапануем увазе чытачоў практычна невядомы публіцыстычны твор Уладзіміра Караткевіча «З шалёнай вышыні», які быў напісаны 2 лютага 1971 г. і апублікаваны ў «Чырвонай змене» 16 лютага таго ж года з рэдактарскімі зменамі. З-за абмежаванага аб'ёму твор не ўвайшоў у ранейшы (1987 — 1991 гг.) збор твораў пісьменніка. Дзіўна, а мабыць, і заканамерна для Караткевіча, але гэтая «Песня аб далечах» (паводле падзагалоўка) не састарэла, не патрабуе гістарычных каментарыяў і больш як праз сорак гадоў з часу стварэння.**

**Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ф. 11, воп. 2, адз. зах. 349).**

**«З шалёнай вышыні» — чарговы адмысловы «каменьчык» у мазаіцы пад назвай «Зямля пад белымі крыламі». Караткевіч слушна казаў у 1979 г. на пленуме праўлення СП БССР пра кожнага з пісьменніцкага асяроддзя: «Выкінь адзін, і мазаіка распадзецца». Ці ж не агульнага ўспрымання нашай радзімы з адметнымі «каменьчыкамі»-куточкамі, ці ж не агульнага ўспрымання шматстайнасці нашага прыгожага пісьменства з адметнымі «каменьчыкамі»-творцамі патрабуе час?**

**Публікацыя Пятра ЖАЎНЯРОВІЧА**

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

# З шалёнай вышыні

## *Песня аб далечах*

Заплюшчваю вочы — і ўсё адно перад імі плёсы, старыкі, паплавы і шаломы стагоў на іх.

Вы пытаеце, які куток Беларусі зрабіў на мяне ў жыцці найбольшае ўражанне? Думаю. І нічога не магу прыдумаць. Высачэзныя ўзгоркі Наваградчыны? Дубовыя, адвечныя калоны мазырскіх лясоў? Стронгавыя рачулкі Лідчыны? Зажураныя азёры пад Ушачамі?

Павінен вам сказаць, дарагія, што ўся Беларусь робіць на мяне найбольшае ўражанне вось ужо сорак — на жаль! — год.

Я разгортваю на стале першую-лепшую з маіх карт. Карту рэк. І гляджу на яе, нібы з шалёнай вышыні. Кідаю на яе шарык і ўсё аддаю лёсу. Шарык коціцца ад рэчкі Ваўчанкі на Парычы, робіць паваротку (тут нібы сугіб карты) і лупіць праз Жлобін і Карму некуды ў раён Тошчыцы, на Дняпро, дзе — трэба ж такое — менавіта і адбываецца дзея маіх «Каласоў». І застаецца тады толькі ўспамінаць.

...Мы з аператарам — астатнія збаяліся — лезем на трыангуляцыйную вышку. Нам абавязкова трэба адарвацца ад глебы, хаця за гэта і даюць па шапцы, хаця далеч выключная і з рачнога адхону.

Метраў трыццаць хісткай, збітых са старых бярвенняў канструкцыі. Ды яшчэ метраў пяцьдзясят крывава-чырвонай стромы да вады. Вышка гнецца, коламі ходзіць у небе, як верхавіна сасны. І вось тут ужо сапраўды шалёная вышыня, бо тут не па сабе, бо гэта не ўтульная кабіна самалёта, а падаць дальбог усё адно, ці з самалёта ці адсюль.

Аператар ледзь не зрываецца, але я падтрымліваю яго, а заадно і важкую камеру «Конвас». Але ў мяне за плячыма восем кіло штатыва, акумулятары, яшчэ розная апаратура, і я ўпускаю экспанометр (мы яго пасля так і не знайшлі), які ляціць праз усю канструкцыю і далей, далей, туды, куды павінен быў зляцець аператар, а магчыма, і я. Што ж, пэўная рызыка — гэта наш хлеб.

Але затое як далёка, як непамерна шырака відаць. І праз палявы бінокль, і проста вачыма.

Унізе круглае, крыху размытае з аднаго боку гарадзішча, валы і затравелыя ірвы, нястомны бег высокай травы на ўсім гэтым, і маўчанне, якое пануе тут больш як тысячу год над спевамі жаўрукоў і над спевамі ракі.

За ёю азёры старыкоў, скошаныя паплавы, стагі, срэбнае мора лазы і шкляное паветра, у якім калыхаецца далёкі мацерыковы бераг і магутны бор над ім.

Злева багатыя хаткі Збарова, сотні чаўноў на беразе, дым вогнішчаў і вясёлкавыя кучы ракушак. Гэта промысел. З іх робяць мацicу, а зрэдку, цяпер вельмі-вельмі рэдка, знаходзяць і рачны жэмчуг.

А там, крыху правей, далёка-далёка, ляжыць са сваімі садамі, з дымкай над заводам згушчанага малака, што корміць столькі людзей на Беларусі і ў свеце, з карпусамі фабрыкі фруктовых він (адных з лепшых у свеце, як кажуць многія, і я ў тым ліку), з майстэрнямі і школамі, з хуткім дымам цягніка на чыгунцы, — там ляжыць «мой зялёны, мой птушыны горад Рагачоў». Так сказаў аб ім малады паэт Мікола Сурначоў, што ў свае дваццаць восем год, у апошнія дні вайны, загінуў на фронце за гэты зялёны горад і за ўсю гэтую зялёную зямлю.

Як ён вырас за гэтыя гады, што прабеглі з дня гібелі паэта. Я ж памятаю адну-адзіную «фабрыку» на ўвесь горад. Раніцай на яе прывозілі на ламавіку «сыравіну», а вечарам, на тым жа адным ламавіку, адвозілі «гатовы прадукт». І дзівак вознік заторкваў сабе ў вачніцу, як манокль, пучок пакулля, каб нехта сказаў:

— Гэта ж толькі беларуская мужыцкая морда можа вытрымаць. Выбіў сабе вока і пакуллем заторкнуў.

Сцёртыя сляды страшэнных руін. І вось у шкельцах бінокля сады і хаты, новыя вуліцы і гнутыя, як лук, масты. А там Дом культуры, старамодную пампезнасць якога крыху скрашвае вельмі добры народны тэатр.

А там, пад магутнымі старажытнымі соснамі, могілкі з капліцамі, адну з якіх узвёў мой дзед. Нядаўна ўлюбёная сасна-маці, «генеральша», якой было пад трыста год і ў развілцы якой можна было сесці дзесяцём, упала галавою ў пясок, з адхону.

І, крыху за ёю, катлавіна з абеліскам. Адтуль у гады вайны і тэрору мае землякі, мае сваякі кожную ноч чулі гукі стрэлаў. Хай будзе праклятае да веку ўсё такое!



Малюнкі Алесі Ісы

А вось, бліжэй, устае пад кронамі ліп і таполяў стары дзедаў дом. Сонечна зелянее ля яго лістота вінаградніку. Іх тысячы на гэтай благаславёнай зямлі, на жаль, пакуль што, толькі «свае». А трэба было б зрабіць вялікія гаспадаркі на ўсіх прагрэтых, ласкавых паўдзённых схілах гэтых «гор». Са сваіх, выпрабаваных за сотню з добрым гакам год, беларускіх гатункаў.

А лошыцкая вішня, што спее ў канцы мая! А ўр'янтоўкі, бэры, сапежанкі, «валовыя мордачкі». Усё расце тут, толькі рукі прыкладзі.

Вось бліжэй чалавек у чаўне выцягвае на паліва дубовую палю. Гэта з моста, які калісь навёў Напалеон. Палі гэтыя зрэдку выцягваюць вось ужо столькі год. Гэта крыху бліжэй за тое месца, дзе быў «паром на бурнай рацэ», які я апісаў.

Усё змяшалася. Усе эпохі. Унь там мы, ныраючы, абмацалі нямецкі танк, які скінулі ў ваду. Цяпер яго, мабыць, ужо зусім засмактала... А калі перавесці вочы правей — багатыя вёскі, багатыя, нягледзячы на тое, што тут наш, «родненькі», дняпроўскі пясочак. Багатыя, бо не толькі пяском, але і нязмерным працалюбствам гэтага народа.

Хаця б тыя самыя Кісцяні ў гусцюшчых шатах векавых дрэў, тыя Кісцяні, дзе фарсіравала Дняпро армія генерала Гарбатава. Дасталося ім у вайну. Часта ўначы бывалі партызаны, а ўдзень удзіраліся немцы, і даводзілася хаваць запасы, прыпасеныя для ночы. Колькі я наслухаўся такога ад Уляны Шолахавай з дняпроўскіх хутароў! Ды не трэба і слухаць. На дзясяткі кіламетраў па адхоне затравелыя сляды акопаў-акопаў-акопаў.

...І вось буслы трапечуць сваімі сцягамі над стрэхамі хат, а мы ідзём за кісцянёўскай арцеллю неваднічых і здымаем іх медныя ад поту і сонца твары, жылаватыя рукі і тое, як ляжаць вяроўкі на напружаных плячах, а ногі цяжка папіраюць зямлю.

Шкляна блішчыць плеўка вады ў ячэях нерата. Кіпіць і гаворыць рознакаляровая рыба: зялёныя палосы, чырвоныя плаўнікі, срэбра лускі...

Там, далей, багатыя чароды над крывым старыком, «падковай», дзе столькі можна набраць шампіньёнаў або забіць на астраўцы вадзяную курачку і пайсці за ёю ўплаў, бо спаніэль не бярэ дзічыны з сушы. Там, дзе можна дапамагчы разгубленай жанчыне завярнуць чараду, якая пайшла «за дажджом», назад у загон. Тысячы чорна-белых кароў.

Качкі ўзлятаюць з пратoк, і іх — як шпакоў. Раптоўна брохаюць ля чаўна вялізныя, з вясло, самы.

А па берагах курганы і стромы да самых Кісцянёў, да млыноў і фермаў, да сучаснай, дарэчы, чайной, дзе порцыі, нягледзячы, што смачна, ты не з'ясі, гарадскі чалавек.

Парк тут старажытны. А вакол і яшчэ паркі і здзічэлыя сады на месцы былых хутароў. Іх знесла не рэвалюцыя. Усё гэта паадбіралі ў паўстанцаў у 1864 годзе і аддалі, дзе карнікам, а дзе і шэрым князям. І вось паўсюль котлішчы, шыпшына, што вырадзілася з руж, і персідскі бэз у дубовых гаях. І ўва мне нараджаецца помслівасць, і я думаю, як гэта добра, што ўсё гэта адабралі ў іх, ад тых, што расстрэльвалі і здраджвалі, як добра, што і самі яны вымушаныя былі пайсці з наседжаных гнёздаў.

Вось, відаць у бінокль, плыве дзед, бацька якога быў сведкам гэтых падзей. Дзед такі, што перад ловам яго пад рукі садзяць у човен, а вечарам — пад рукі ж — падымаюць з яго, бо не згінаюцца ногі. І ўсё адно ездзіць. І вось спявае і спявае: «Вось як, рабяты, было добра нам са Скоблевымайцом». Доўга жывуць тут людзі. Як дняпроўскі мораны, чорны дуб.

Рака-рака! Як шкада аднаго, таго, што па табе зараз ходзяць толькі пескавозы. Вось у кніжцы «Дняпро і яго сістэма», 1908 год, напісана: «на ўчастку ад г. Оршы да вусця р. Бярэзіны... ходзяць буксірныя і тэрміновыя пасажырскія параходы». Зараз іх няма. Ясна, чыгункі, аўтамашыны і самалёты. Але і рэкі, і ты, рака, павінны жыць.

Урэшце, сёе-тое і робіцца. Умацаванне берагоў. Краны, якія дастаюць з дна карчы і каменні. Але гэтага мала, хаця дальбог не так цяжка зрабіць Дняпро суднаходным.

Далячынь. Далячынь да самай імглы. Да самога, здаецца, краю любай, роднай зямлі... нездарма прывёў сюды мяне мой шарык, мой калабок.

...Мы спускаемся з вышкі, і нас крыху матляе. Я іду па гарадзішчы, і пад нагамі маімі чарапкі, наканечнікі стрэл, іржавыя кавалкі крыцы — гэтыя сляды продкаў маіх, што гэтак жа тапталі зямлю, памагалі ёй раджаць і спявалі тыя ж самыя песні, што і ўсе мы.

Спускаюся з берага. Дзед вудзіць, паварочвае да мяне галаву з маладымі сінімі вачыма і ўсміхаецца:

— Спаймаем сцярлядку? — пытае ён.

— Давайце, дзеду.

Ён пачынае весці леску, на якой нешта цяжкае і... выводзіць рыбу... бутэлечку рагачоўскага яблычнага віна з прывязаным да яе каменем. Дастае яе з дна, з крыніц. І мы ломім хлеб, і мачаем у соль цыбулю і закусваем сырой, пасоленай і паперчанай рыбай. Ямо, паглядаючы на чырвоны захад, на дымы над Свержынскай фабрычкай, на зялёныя шапкі курганоў, на рудыя стромы гарадзішча, на ўвесь гэты радзінны, свой абшар, які і ў Наваградку, і пад Полацкам, і ў Пінску.

На абшар, на якім ласкава, балюча і добра жыць і за які, у выпадку чаго, не шкада нават аддаць жыццё.



# Перавыданні ды ілюстрацыі

**З галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктарам Шніпам карэспандэнт «ЛіМа» размаўляла пра перавыданне класічных твораў беларускай дзіцячай літаратуры, іх ілюстраванне і, вядома, чытанне разам з дзецьмі! А нагодай стаў юбілей Міхася Лынькова**

**— Віктар Анатольевіч, апошнім разам «Мастацкая літаратура» перавыдавала «Міколку-паравоза» ў 2009 годзе. Кніжка была без ілюстрацый, але сёння яе складана знайсці ў кніжнай краме. Ці не плануецца новае выданне твораў Міхася Лынькова?**

— Міхась Лынькоў — класік, а класіка заўсёды мае чытача. Міколка-паравоз — гэта своеасаблівы брэнд, які ведаюць большасць беларусаў. Твор неаднойчы перавыдаваўся. Выданне 2009 года ўжо разышлося. Некалькі месяцаў таму да нас, па заканчэнні Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва, прыйшлі на працу маладыя мастакі — Міхась Дайлідаў і Анастасія Капульцэвіч. У іх ёсць імпэт, жаданне і, галоўнае, выдатныя здольнасці. Кніжкі, над якімі яны працавалі, выглядаюць сучасна і стыльна. Я думаю, з імі мы і паспрабуем па-новаму праілюстраваць творы Лынькова.

Нядаўна Анастасія ілюстравала новую кнігу Анатоля Казлова — «Той, хто абганяе сны». За апошнія дваццаць — трыццаць гадоў так склалася, што кніга прозы — гэта толькі вокладка і тэкст. Чытаеш, і няма за што вокам зачапіцца. Зразумела, дзіцячыя кнігі патрабуюць цікавага афармлення, але дарослыя — гэта тыя ж дзеці, якія проста выраслі і таксама хочуць убачыць у кнізе нешта прыгожае. Таму выданні для дарослага чытача мы таксама пачынаем ілюстраваць.

**— У большасці беларускіх пісьменнікаў абавязкова ёсць адна-дзве кнігі, напісаныя для дзяцей. Некаторыя маглі б быць цікавыя сучасным дзецям, але тыя, што пабачылі свет пяцьдзясят гадоў таму, амаль немагчыма адшукаць у кнігарні ці інтэрнэце. Як ідзе справа з перавыданнем дзіцячых кніг?**

— Сапраўды, кнігі для дзяцей выходзілі ўвесь час. Ёсць добрыя творы, якія выхоўвалі, прыносілі карысць чытачам. Пятрусь Макаль, Анатоль Вялюгін, Юрась Свірка… Час ад часу трэба вяртаць тое, на чым выхоўвалася маё пакаленне. У мінулым годзе мы ўпершыню за трыццаць гадоў перавыдалі вершы для дзяцей Пятра Глебкі. Афармляла кнігу «Наша лета» мастачка Надзея Барай. Малюнкі дапаўняюць вершы, кніга атрымалася вельмі гарманічнай. Тыраж — дзве з паловай тысячы асобнікаў — ужо разышоўся. На днях у кнігарнях з'явіцца перавыданне «Рабінзона Круза», перакладзенага на беларускую мову Аленай Васілевіч. Кніга выходзіла ў «Мастацкай літаратуры» ў 1976 годзе. Афармляў яе мастак Валянцін Макаранка, які цяпер таксама працуе ў нас. Ён адшукаў у архіве выдавецтва старыя ілюстрацыі, апрацаваў іх з дапамогай камп'ютара, і, спадзяюся, перавыданне будзе добрым падарункам для дзяцей і іх бацькоў! Анастасія ж цяпер працуе над ілюстрацыямі да «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра — таксама класікі нашай дзіцячай літаратуры. У планах «Мастацкай літаратуры» — перавыданне дзіцячых кніг Авер'яна Дзеружынскага і Нэлі Тулупавай.




**— Як ілюстраванне кніг адбіваецца на іх кошце?**

— Магчыма, кніга падаражэе на пяць, дзесяць тысяч рублёў, але сёння гэта не надта вялікія грошы. Напрыклад, без малюнкаў выданне каштавала б пяцьдзясят тысяч, а будзе — шэсцьдзясят ці шэсцьдзясят пяць. І гартаць кнігу з ілюстрацыямі больш прыемна. Я дагэтуль памятаю «Палескіх рабінзонаў» свайго юнацтва — па чорна-белых малюнках!

**— Калі меркаваць па поспеху «Нашага лета», на перавыданні класікі можа быць больш попыт, чым на кнігі сучасных дзіцячых пісьменнікаў?**




— Чалавек заходзіць у кніжную краму і звычайна шукае знаёмае імя. Першая кніга невядомага аўтара насцярожвае: чаго ад яго чакаць? А Пятро Глебку бабулі і дзядулі, натуральна, адразу ўспомняць, бо гэта пісьменнік, якога яны чыталі самі, — блізкі для іх. Таму перавыдаваць класіку варта: каб яна працягвала жыць у нашым культурным асяроддзі, захапляла дзяцей. Побач з Пятром Глебкам можна згадаць і Алеся




Якімовіча, яго пераклад «Казкі пра залатога пеўніка» Аляксандра Пушкіна быў перавыдадзены ў гэтым годзе. Ілюстрацыі да кнігі — дыпломная работа Вольгі Максімовіч — мастака, дызайнера, нашага новага супрацоўніка. На сайце выдавецтва ёсць магчымасць пазнаёміцца з гэтай кнігай праз буктрэйлер.

**— Згадаем зноў Міхася Лынькова: сёння падчас чытання «Міколкі-паравоза» многія эпізоды хочацца апусціць альбо крыху перафармуляваць. Мы ведаем, напрыклад, казачную аповесць Сельмы Лагерлёф «Дзівоснае падарожжа Нільса з дзікімі гусямі», якая з'яўляецца вольнай перапрацоўкай перакладчыкаў і мае нямала скарачэнняў. Ці плануецца нейкім чынам адаптаваць для сучасных дзяцей творы Лынькова?**

— Памятаю, адзін пісьменнік прынёсці у выдавецтва твор, дзе галоўным героем быў Міколка-паравоз. Але, на мой погляд, выкарыстоўваць чужых персанажаў нельга. Міколка-паравоз належыць выключна Міхасю Лынькову! Народныя казкі можна асучасніваць, дадумваць ім працяг, але творы канкрэтных пісьменнікаў павінны захоўвацца ў тым стане, у якім былі напісаны. Не варта парушаць зробленае, нешта выкідаць. Раптам у выніку атрымаецца не твор, а кароткі пераказ? Белыя, чырвоныя, буржуі — гэта наша гісторыя, гэта тое, што было і чаго няма сёння, і таму чытаць цікава. Вядома, нейкія моманты ў кнізе давядзецца новым пакаленням патлумачыць…

**— Якія кнігі з беларускай літаратуры вы чыталі ўласным дзецям? Ці здараліся запамінальныя эпізоды?**

— Мне пашанцавала, бо мая жонка — Людміла Рублеўская, з якой дзеці заўсёды мелі што пачытаць. І нават удзельнічалі ў стварэнні «сямейнай» кнігі — «Прыгоды мышкі Пік-Пік». Мы чыталі дзецям і беларускія народныя казкі, і новыя кнігі пісьменнікаў. Калі ў кнігах не было ілюстрацый, дзеці самі рабілі малюнкі — адразу ў тэксце. Маглі героям нешта дамаляваць — вусы, капялюш… Яшчэ чытаць не ўмелі, а слухалі і малявалі адпаведна сваім уяўленням. І на фотаздымках дамалёўвалі саміх сябе. Зрэшты, яны і выраслі мастакамі: Вераніка скончыла БДАМ, Максім вучыцца на чацвёртым курсе.

**— Сёння ў інтэрнэце можна без праблем знайсці тэксты «Міколкі-паравоза», аповесці «Пра смелага ваяку Мішку і яго смелых таварышаў», але пошук ілюстрацый да гэтых твораў амаль безвыніковы. Як можна было б змяніць сітуацыю?**

— Вядома, было б выдатна параўнаць ілюстрацыі рознага перыяду. Калі казаць пра дзіцячую кнігу, то праца і пісьменніка, і мастака тут аднолькава значная. Ёсць гісторыя літаратуры, але ёсць і гісторыя мастацтва, у прыватнасці кніжнай ілюстрацыі. Мы маем цэлыя дынастыі мастакоў, — напрыклад, дынастыю Волкавых — і аматарам кнігі было б цікава ведаць іх работы. Змясціць іх у інтэрнэце нескладана, але патрэбны чалавек, які б сам, па ўласнай ініцыятыве, гэтым заняўся. Калі згадаць гісторыю выдавецтва, сёння ў нас адносна невялікі штат… Але энтузіясты заўсёды ёсць: Міхась Казлоўскі збірае кнігі і, напэўна, мае ўсе выданні «Міколкі-паравоза»: ад першага да апошняга. З яго дапамогай можна было б зладзіць самыя розныя праекты. Дарэчы, ён і прапанаваў нам зноў перавыдаць творы для дзяцей Міхася Лынькова.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Чытаючы Лынькова

Як лепш за ўсё ўшанаваць памяць пісьменніка? Напэўна, перачытаць яго творы і заахвоціць да гэтага іншых. 28 лістапада адзначаецца 115 гадоў з дня нараджэння Міхася Лынькова — выдатная нагода, каб разам з дзецьмі ўзяць у бібліятэцы кнігу з «Міколкай-паравозам» ды аповесцю «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» і пераканацца, наколькі цікавай можа быць класіка дзіцячай беларускай літаратуры сучаснаму маленькаму чытачу. Зрэшты, зрабіць высновы зусім нескладана: немагчыма ў хатніх умовах прымусіць дзіця слухаць твор, які не падабаецца!

Эксперымент пачаўся з аповесці «Міколка-паравоз», за якую мы ўзяліся разам з малодшым сынам. Ці не больш як сто гадоў розніца паміж ім і вясёлым, адважным героем? Гэтаксама, як Міколка, малы можа схавацца пад коўдру і «паказваючы адтуль толькі кончык носа, пачаць чохкаць, як сапраўдны паравоз». Стагоддзе мінула — а не знікла захапленне дзяцей, якім даводзіцца жыць ля чыгункі, цягнікамі. За восень мы перагледзелі ўсе магчымыя мультфільмы з цягнічкамі: ад «Томаса і яго сяброў» і «Палярнага экспрэсу» да «Міколкі-паравоза» з пэўным культурным багажом. Нягледзячы на трохгадовы ўзрост, напачатку ўсё было цікава і зразумела: па-рознаму гудуць цягнікі, бацька расказвае пра мазут і нафту, дзед набывае бублікі з макам. Наперадзе, здаецца, магло быць нямала займальных здарэнняў — на станцыі ці ў хлапечай кампаніі. Малы слухаў і гуляўся з цацачнымі цягнічкамі, але сямейную ідылію нахабна сапсавалі буржуі. Дужа не пашанцавала на іх Міколку: жандары паласуюць папругамі, а начальнік дэпо гразіцца прагнаць яго сям'ю з жытла. І хлапчук пачынае помсціць. Пасля хрышчэння начальніцкага ката ў зялёнай фарбе наша чытанне забуксавала. Бо чым смялей змагаюцца Міколка і дзед Астап з буржуямі ды немцамі, тым далей застаюцца мірныя цягнікі — і толькі напрыканцы аповесці ратуе партызан бранядоезд пад чырвоным сцягам.

Перш чым чытаць аповесць старэйшаму сыну, трэба было б некалькі разоў па дарозе ў школу расказаць пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, класавую барацьбу і спробу пабудаваць камунізм. А потым на прыкладзе «Міколкі-паравоза» вучыць крытычнаму чытанню: не атаясамліваць сябе з героем-апавядальнікам, а глядзець на выяўленыя падзеі вачыма чалавека з іншым светапоглядам. Бо пафас аповесці супярэчыць прынцыпам гуманістычнага выхавання: людзі адзін для аднаго калі не браты, то прынамсі «суседзі па сусвеце» (нават калі патрапляюць у катэгорыю «буржуяў»). Вядома, у мультфільмах «для хлопчыкаў» нямала боек, якія па жорсткасці не саступаюць рэвалюцыйным прыгодам Міколкі. Але звычайна героі тут робаты, монстры, іншапланетнікі, а не ворагі ў чалавечым абліччы. Такім чынам, адважныя ўчынкі герояў мы пакінулі на потым. Раптам нехта (нават пасля тлумачальнай размовы) з дзяцей жартам як кіне паўнацэламу дзядзьку:

— Ідзі, ідзі, погань буржуйская...

Будзе зусім не весела.

Аповесці «Пра смелага ваяку Мішку...» пашчасціла больш. Падчас чытання даводзілася скарачаць апісанні прыроды ці Мішкавых паводзін, затое ахвотна слухалі аповесць сыны і нават пляменніца — вучаніца трэцяга класа.

— І ты так магла б пабіць мядзведзя, калі б ён на мяне напаў?

— А чаму салдаты не падстрэлілі Мішку?

Малодшы ж увесь час згадваў улюбёнага Віні-Пуха.

На сярэдзіне твора атрымалася замінка. «Не хачу слухаць, бо словы не зразумелыя», — паскардзіўся старэйшы. Махорка, вінтоўка, полк, капцёр... А тут яшчэ чырвонаармейцы, замест таго, каб мерна ехаць па лясных дарогах, вырашылі даць бой белапалякам. У выніку некалькі частак было прапушчана, але твор мы дачыталі. Час ад часу малыя зазіралі ў кнігу з надзеяй пабачыць, як выглядаюць Барадаты ды Жук, але выданне «Кнігазбору» прапаноўвае толькі тэкст. Нават інтэрнэт не дапамог у пошуку малюнкаў. А праз некалькі вечароў сын-першакласнік спытаўся:

— А мы будзем яшчэ чытаць пра гэтага мядзведзя?

Значыць, творы Лынькова актуальныя і сёння!

**Алеся ЧАРНАВОКАЯ**

# Купалаўцы купалаўцам

**Вось ужо тыдзень у Дзяржаўным літаратурным музеі імя Янкі Купалы працуе выстаўка «Ідзе на змену змена…», прымеркаваная да 70-годдзя надання першаму беларускаму тэатру, колішняму БДТ-1, імя Янкі Купалы. Пагадзіцеся, такая выстаўка заслугоўвае асаблівай увагі.**




Фота Кацярыны Зубовіч

*Паўлінка новага стагоддзя — Марта Голубева.*

## ПАЭТ І ДРАМА

Тэме «Янка Купала і тэатр» у стацыянарнай экспазіцыі музея прысвечана цэлая зала, дзе сабраныя матэрыялы як з фондаў самога музея, так і з архіваў розных тэатраў і асабістых архіваў акцёраў, рэжысёраў і тэатральных мастакоў. Што да выстаўкі «Ідзе на змену змена…», то яе мэта — паказаць гісторыю тэатра праз творы Янкі Купалы, якія ідуць на сцэне столькі ж, колькі тая існуе. Лёс «Паўлінкі», «Тутэйшых», «Прымакоў» і «Раскіданага гнязда», ад прэм'еры да сучаснасці, можна прасачыць не выходзячы з музейнай залы.

— Спадзяюся, што цікаўнасць да Купалавых п'ес застанецца ў тэатра і надалей і што яркія спектаклі пабачым не толькі мы, але і нашыя дзеці ды ўнукі, — сказала падчас адкрыцця дырэктар музея імя Я. Купалы Алена Ляшковіч.

Натуральна, што ад першага дня працы Купалаўскі музей падтрымлівае цесныя стасункі з цёзкам-тэатрам. Гэтае супрацоўніцтва было сімвалічна падкрэслена падчас адкрыцця выстаўкі: вядучымі выступілі Вольга Пархімовіч, загадчык аддзела культурна-адукацыйнай работы купалаўскага музея, і Сяргей Чуб, акцёр купалаўскага тэатра. Заканамерна і тое, што выстаўку стварылі ў 2014 годзе, калі абедзве ўстановы адзначаюць 70-годдзе (для тэатра круглая дата спраўдзіцца 31 снежня).

Янка Купала актыўна ўдзельнічаў у пастаноўцы спектакляў паводле сваіх твораў. Пішуць нават, што ён прападаў у тэатры і днём, і ўвечары, часам наведваў рэпетыцыі разам з Уладзіслававай Францаўнай, даваў парады рэжысёрам і акцёрам (на гэта паглядзець было б асабліва цікава), а пасля спектакляў запрашаў трупу да сябе ў госці. Сябраваў Купала і з першым дырэктарам тэатра — Алесем Ляжневічам. Праўнук Алеся Ляжневіча, першы віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Ігар Рачкоўскі, прысутнічаў на адкрыцці выстаўкі. Былі, канечне, і самі купалаўцы.

Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, у рэпертуары якой — больш як 60 роляў, выказала думку, што «наданне тэатру імя вялікага песняра — гэта вялікая адказнасць і вялікі гонар». Віктар Манаеў, які сярод іншых незабыўных роляў мае ролю Мікіты Зносака («Тутэйшыя»), таксама сказаў слова ў гонар адкрыцця выстаўкі: «Добрая нагода нагадаць мінчанам, якія цікавяцца мастацтвам, літаратурай і гісторыяй, пра наш тэатр. Нацыянальны тэатр — квінтэсэнцыя ўсіх галін культуры кожнага народа. У Латвіі нацыянальны тэатр — гэта Ян Райніс, у ўкраінцаў — Іван Франко, а беларусы, дзякуй богу, маюць Янку Купалу. Нездарма першы беларускі тэатр носіць яго імя. Так было наканавана».

Пра значэнне тэатра казала і Вольга Бабкова, загадчык літаратурна-драматычнай часткі купалаўскага:

— Цудоўна, калі ў гарадской прасторы існуюць культурніцкія месцы, якія з часам становяцца сімваламі. У Мінску гэта — тэатр Янкі Купалы. Мінск страціў безліч гарадской гістарычнай забудовы, і для людзей, якія маюць гістарычную памяць, кожны «стары» будынак мае значэнне, выклікае пашану. Сярод такіх — наш тэатр. Колькіх выдатных людзей памятаюць яго сцены! Якія неверагодныя падзеі тут адбываліся! Якія выключныя і таленавітыя людзі ігралі і граюць на яго сцэне, прамаўляючы такія важныя словы!..



*Уладзімір Рагаўцоў, Арнольд Памазан, Віктар Манаеў і Мікалай Пінігін.*

> *Над выстаўкай працавалі: Марына Плаўская (куратар), аддзел навукова-фондавай работы (камплектацыя і сувязі з тэатрам), фірма «Тэхна-музей».*

За апошнія гады тэатр стаў лаўрэатам і пераможцам шэрагу міжнародных тэатральных фестываляў, з вялікім поспехам гастраліраваў у Польшчы, Эстоніі, Украіне, Расіі, Фінляндыі, Азербайджане, Францыі, Літве і Кітаі. Сёння на сцэне тэатра працуюць народныя артысты СССР, лаўрэаты дзяржаўных прэмій СССР, БССР, Рэспублікі Беларусь, народныя і заслужаныя артысты Беларусі. Трэцюю частку трупы складаюць маладыя купалаўцы — «купаляняты», кажучы словамі Сяргея Грахоўскага.

## ГАЛОЎНАЯ ЖАНЧЫНА КУПАЛЫ

У 1944 годзе рэжысёр Леў Літвінаў паставіў славутую «Паўлінку». Прэм'ера адбылася ў Томску: купалаўскі тэатр падчас Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў эвакуацыі. У самім Мінску — пасляваенным, разбураным, згаладалым — поспех спектакля быў трыумфальны. Выканаўцы роляў, прытым не толькі галоўных, адразу ж зрабіліся любімцамі публікі. Тэкст разыходзіўся на цытаты. Асаблівае захапленне выклікалі акцёрскія дуэты: Крыніцкія — Уладзімір Дзядзюшка і Лідзія Ржэцкая, Пустарэвічы — Глеб Глебаў і Вера Пола. Ролю пана Быкоўскага — пэўна, самую яркую ў спектаклі і адну з самых яркіх у рэпертуары тэатра ўвогуле — выканаў Барыс Платонаў. Іван Шаціла ўвасобіў на сцэне Якіма Сароку, а галоўную ролю атрымала Раіса Кашэльнікава.

Пазней Паўлінкамі станавіліся Ала Долгая, Зоя Белахвосцік, Юлія Шпілеўская, Святлана Зелянкоўская, Юліяна Міхневіч, Кацярына Яворская, Валянціна Гарцуева, Кацярына Алейнікава і Марта Голубева.

Што да самога спектакля, у «Паўлінкі» шчаслівы лёс: пастаноўка нарадзілася разам з тэатрам і ў першапачатковым выглядзе захавалася па сёння, стаўшы «спектаклем-музеем», бясцэннай тэатральнай рэліквіяй. У 1956 годзе адбыўся трохсоты яе паказ, у 1961-м — пяцісоты, у 1980-м — тысячны.

Не менш уражваюць і іншыя лічбы. Актрыса Ала Долгая выконвала ролю Паўлінкі цягам 18 гадоў! Кампанію ёй складаў Арнольд Памазан, выканаўца ролі пана Быкоўскага на працягу 32 гадоў. «Да мяне ўжо людзі падыходзілі, пыталіся: «Як ты яшчэ трымаешся на гэтай ролі?» — са смехам згадаў спадар Арнольд. — А я казаў: «Нічога, можна і яшчэ трохі пайграць».

З 2000 года «Паўлінка» істотна абнавілася: новыя дэкарацыі, касцюмы, жывая музыка — аркестр пад кіраўніцтвам Уладзіміра Кур'яна, загадчыка музычнай часткі тэатра. На адкрыцці выстаўкі наведвальнікі і госці пачулі некалькі песень у выкананні згаданага аркестра і сённяшняй Паўлінкі — Марты Голубевай. Акцёры, якія выконвалі гэтыя песні цягам многіх гадоў, не стрымаліся — заспявалі.



*Актрыса Зінаіда Зубкова.*

— У 1960-м мы прыйшлі з Ліліяй Давідовіч у тэатр, — згадвала пасля Зінаіда Зубкова. — Мы танцавалі ў пралогу, а затым садзіліся ў кулісу і ўвесь першы акт глядзелі, як працуюць Платонаў, Ржэцкая, Кашэльнікава, Дзядзюшка, Глебаў... Адарвацца было немачыма.

> *«Аднойчы, у часе рэпетыцый п'есы Міхася Чарота «На Купалле», я звярнуў увагу на чалавека, што з дня ў дзень прыходзіў у тэатр, садзіўся ў чацвёртым радзе з правага боку і, падпёршы кіёчкам бараду, уважліва глядзеў на сцэну. Наступаў перапынак. І ён ішоў за кулісы. Грэўся разам з усімі каля адзінай у тэатры «буржуйкі». Ахвотна ўключаўся ў абмеркаванне. Нешта дужа знаёмае было ў абліччы гэтага чалавека. «Хто гэта?» — нарэшце спытаўся я ў Міровіча. — «Янка Купала».»*
>
> **З успамінаў мастака Аскара Марыкса**

## НЕ ТОЛЬКІ РЭЧЫ

Пісьменнік Анатоль Бутэвіч распавёў пра свае ўражанні ад выстаўкі:

— Тое, што мы хочам ведаць сябе глыбей — натуральна, і калі была б магчымасць даведацца як мага больш пра кожны знакавы аб'ект у сферы культуры (калі так можна назваць тэатр), то мы, можа, б лепш разумелі сутнасць іх працы.

Тут ёсць надзвычай цікавыя экспанаты, якія можна расшыфроўваць. Вось глядзіце: афіша. «Беларускі народны дом» ставіць «Паўлінку», напісана нават — «аперэта». Мы [Анатоль Бутэвіч і Мікалай Пінігін. — **Н. Г.**] доўга разгадвалі, што за Беларускі народны дом. Прыйшлі да высновы: ён знаходзіўся ў Вільні! Бо пазначана: 1919 год і — «дзве гадзіны па савецкім часе». Вось так, пазнаючы гісторыю тэатра, мы міжволі звяртаемся да гісторыі краіны.

— «За камісара — Браніслаў Тарашкевіч», — Мікалай Пінігін звяртае ўвагу на яшчэ адну цікавую дэталь. І дадае: — У нашага Паўла Харланчука, які, дарэчы, грае цяпер Быкоўскага, нарадзілася дачушка — і ён назваў яе Паўлінкай.

Найбольшы інтарэс у мастацкага кіраўніка Купалаўскага тэатра выклікалі даволі нязвыклыя экспанаты: старыя, пачатку XX стагоддзя, квіткі і абгорткі ад цукерак, якія знайшоў адзін з будаўнікоў падчас рэстаўрацыі.

— Дзякуй богу, яны захаваліся. Архіў у нас ёсць, але няма тэатральнай выстаўкі. Не маем такой магчымасці.

Што яшчэ можна ўбачыць на купалаўскай выстаўцы?

Па-першае, гэта афішы спектакляў, пастаўленых паводле п'ес Янкі Купалы, і перадусім — «Паўлінкі»: прэм'ера ў Томску, трохсоты, пяцісоты і тысячны спектакль, 40-годдзе пастаноўкі, сучасная «Паўлінка»… Тут жа — канцэптуальная афіша «Тутэйшых» 1990 года.



*Грымёрны столік Раісы Кашэльнікавай.*

Па-другое, гэта эскізы дэкарацый да «Раскіданага гнязда» і іншых п'ес, зробленыя мастакамі Я. Нікалаевым, Б. Герлаванам і А. Марыксам, прычым эскізы гэтыя можна лічыць паўнавартаснымі творамі мастацтва.

Трэцяе — грымёрны столік Раісы Кашэльнікавай, з асабістымі рэчамі актрысы, паперамі і рэквізітам.

Затым — фота легендарных акцёраў у не менш легендарных вобразах, у тым ліку партрэты пачынальнікаў: І. Буйніцкага, У. Галубка, Ф. Ждановіча, Е. Міровіча і іншых. Не засталіся без увагі мастакі, рэжысёры і дырэктары тэатра.

А галоўнае — сам Янка Купала!

У экспазіцыі выстаўленыя рэдкія дакументы: ліст з паказанняў Купалы ў ДПУ наконт п'есы «Тутэйшыя» (1930), рукапісы «Паўлінкі» і «Раскіданага гнязда» (1913), рукапіс перакладу п'есы «Сялянка» В. Дуніна-Марцінкевіча, выкананага паэтам. Прадстаўлены таксама зборы драматычных твораў Я. Купалы (1927 і 1932 гадоў). Цікава прачытаць прозвішчы мінскіх мецэнатаў, якія ахвяравалі грошы на будаўніцтва тэатра.

І гэта — толькі самае-самае.

Выстаўка працуе да 16 снежня.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Новыя крокі сяброўства




*Намеснік дэкана гістарычнага факультэта МДУ імя М. Ламаносава Аксана Солапава падчас экспертна-медыйнага форуму.*

**8 снежня спаўніцца 15 гадоў з дня падпісання дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь. Напярэдадні юбілею вядучыя эксперты дзвюх краін сабраліся на пляцоўцы Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносін, каб абмеркаваць ход і вынікі інтэграцыі ў асноўных сферах жыцця Саюзнай дзяржавы. Не засталіся без увагі і пытанні міждзяржаўнага супрацоўніцтва ў гуманітарнай галіне.**

Як вядома, юбілей — добрая нагода падвесці вынікі і абмеркаваць планы. Экспертна-медыйны форум «15-годдзе Саюзнай дзяржавы: план дзеянняў на заўтра» меў на мэце не толькі аналіз зробленага, але і пошук новых рашэнняў для далейшай інтэграцыі краін. У ліку іншых пытанняў — неабходнасць прадстаўлення беларускіх газет і часопісаў у расійскіх крамах, больш шырокае інфармаванне простых людзей пра адметнасці Саюзнай дзяржавы, а таксама станоўчыя бакі жыцця ў кожнай з краін-удзельніц.

Так, намеснік дэкана гістарычнага факультэта МДУ імя М. Ламаносава Аксана Солапава зазначыла:

— Сёння пакаленню маладых людзей трэба тлумачыць, што аб'ядноўвае Расію і Беларусь і чаму расійска-беларуская інтэграцыя асаблівая, чым яна адрозніваецца ад супрацоўніцтва з іншымі краінамі на постсавецкай прасторы. Але калі разгледзець любы падручнік па гісторыі Расіі найноўшага часу, то пабачым, што Саюзнай дзяржаве прысвечана там максімум 8 — 10 радкоў. Падаецца, нават на ўзроўні падручнікаў варта падкрэсліваць, што ў асноўных дакументах Саюзнай дзяржавы не ідзе гаворка пра аб'яднанне дзвюх краін, што дзяржавы-ўдзельніцы застаюцца цалкам незалежнымі і раўнапраўнымі. Існаванне наддзяржаўных праграм дазваляе грамадзянам абедзвюх краін выкарыстоўваць увесь іх станоўчы патэнцыял, які могуць мець і агульныя праекты ў галіне фарміравання і захавання агульнай гістарычнай памяці. Гісторык, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва Інэса Слюнькова ў сваім выступленні падкрэсліла:

— Для фарміравання станоўчага вобраза Саюзнай дзяржавы рэалізоўваюцца пэўныя праекты, напрыклад, прысвечаны стварэнню адзінай турыстычнай прасторы. Выхадам на новы этап у сферы гісторыка-культурнай памяці могуць быць сумесныя справы, у прыватнасці, праца над праектам «Саюзная дзяржава: адкрытыя архівы». Ён мусіць быць адрасаваны студэнцтву і мае на мэце выяўленне, сістэматызацыю і публікацыю ў адкрытым доступе архіўных дакументаў, фарміраванне і публікацыю сапраўдных крыніц і матэрыялаў па палітычнай гісторыі, матэрыяльнай і мастацкай культуры, жыцці беларускага і рускага народаў. Сёння расійскія архівы па шэрагу прычын маладаступныя для беларускіх даследчыкаў. У той жа час мноства каштоўных крыніц па расійскай тэматыцы захоўваецца ў архівах Беларусі, перадусім гаворка ідзе пра гісторыю памежных рэгіёнаў — Браншчыны, Смаленшчыны, Пскоўскай вобласці. Такі праект мог бы стаць імпульсам для ўзаемадзеяння на ўзроўні архіваў, універсітэтаў, студэнтаў.

Думаецца, надзвычай важны аспект міждзяржаўнага супрацоўніцтва — сумесныя выдавецкія праекты, а таксама літаратурныя конкурсы для маладых пісьменнікаў з далейшай публікацыяй самых лепшых твораў. Усе ўдзельнікі экспертна-медыйнага форуму атрымалі ў якасці падарунка біяграфічны даведнік «Беларусы, якія праславілі Расію. Расіяне, якія праславілі Беларусь», а таксама першы выпуск літаратурнага альманаха, што з'явіўся летась па выніках конкурсу «Мост дружбы». Спадзяёмся, новыя выданні і цікавыя праекты, прысвечаныя супрацоўніцтву ў межах Саюзнай дзяржавы, яшчэ наперадзе.

**Марына ВЕСЯЛУХА,
Мінск — Масква,
фота аўтара**

# Лёгкасць гістарычнай зброі

Прэс-прэзентацыя кнігі Уладзіміра Мажылоўскага «Праклён мітрапаліта Феафіла», трэцяга выдання з серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць», адбылася ў «Выдавецкім доме «Звязда». У зборніку аўтара, які складаецца з трох аповесцей — «Праклён мітрапаліта Феафіла», «Друеўскі ваўкалак» і «Спіраль гісторыі», — гісторыя перапляталася з містыкай, а рамантыка — з дэтэктыўнасцю.

Творы не паяднаныя адной сюжэтнай лініяй. На некаторых старонках супрацьпастаўляецца адданасць жывёл і дзікасць людзей, тут дзейнічае малады шляхціц Юрый, які помсціць за родных. На другіх — раскрываецца таямніца гібелі і кахання маскоўскай княгіні Алены. Кніга выглядае цэласнай, таму што дасягаецца амаль немагчымае: цяжкія для ўспрымання сучасным чалавекам гістарычныя падзеі ператвараюцца ў лёгкае, але дакументальна праўдзівае чытанне.

Галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Дзянісава адзначыла, што ў кнізе «Праклён мітрапаліта Феафіла» яскрава адчуваецца атмасфера твораў Уладзіміра Караткевіча, ад яе немагчыма адарвацца. У беларускай літаратуры, на яе думку, існуе многа гістарычных кніг, але нешматлікія з іх успрымаюцца на адным подыху. Уладзіміра Мажылоўскага, нягледзячы на яго 54-гадовы ўзрост і грунтоўны пісьменніцкі досвед, называюць маладым аўтарам. Справа ў тым, што дасласць свае творы ў рэдакцыю часопіса «Маладосць» ён адважыўся толькі ў канцы 2012-га. Рэакцыя чытачоў: дзе яшчэ можна пачытаць гэтага аўтара? Кніга «Праклён мітрапаліта Феафіла» стала адказам на гэтае пытанне.

Уладзімір Мажылоўскі не любіць называць сябе пісьменнікам — напэўна, перашкаджае сціпласць. Нарадзіўся ў вёсцы, скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага ўніверсітэта, амаль трыццаць гадоў працаваў дырэктарам невялічкай Барунскай васьмігадовай школы, што ў Браслаўскім раёне. Цяпер загадвае аддзяленнем Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Браслаўскага раёна.

Падчас прэс-прэзентацыі Уладзімір Мажылоўскі распавёў, як пачаў пісаць. Натхніла яго... здзіўленне нізкім узроўнем ведаў некаторых вучняў падчас школьных іспытаў па гісторыі Беларусі. «Моладзі і дзецям было нецікава вучыцца па кнігах, перагружаных датамі, імёнамі, тэрмінамі. Таму я вырашыў стварыць нешта кшталту падручніка для падлеткаў, але цікавага і забаўляльнага», — паведаміў пісьменнік.

Усе апавяданні Уладзіміра Мажылоўскага грунтуюцца на гістарычных фактах, доля вымыслу тут малая — але ці ж бывае без яго мастацкая літаратура? «Стараюся на цікавых фактах паказаць нашу гісторыю маладому пакаленню, бо яна не менш велічная, чым мінуўшчына Англіі ці, скажам, Францыі. Мне давялося шмат працаваць з архівамі, дакументамі, кнігамі. Каб знайсці адно слова, часам прыходзілася падымаць гару літаратуры. А характары герояў бяру ад знаёмых — тут не памылішся», — прызнаўся Уладзімір Мажылоўскі.

У планах аўтара — раман «Нашэсце», рукапіс якога складае цэлых дзевяцьсот старонак! Праз лёс аднаго шляхецкага роду пісьменнік абяцае паказаць амаль усё XVI стагоддзе на беларускай зямлі, дзе будзе і Стэфан Баторый, і Казанская вайна, і Іван Грозны.

Прэзентацыя выданняў серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць» разам з кнігай «Праклён мітрапаліта Феафіла» плануецца ў другой палове снежня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Ні дня без ілюстрацыі!




Многія пісьменнікі кіруюцца (ці стараюцца кіравацца) правілам: ні дня без радка. А вось вядомы дызайнер, ілюстратар і мастачка Наталі Раткоўскі вырашыла пражыць цэлы год па строгім прынцыпе «ні дня без ілюстрацыі». Па ўмовах праекта, які атрымаў назву «365», Наталі мусіла кожны дзень маляваць хаця б па адным малюнку і як справаздачу змяшчаць яго фотаздымак ці адсканіраваную версію на старонцы ў інтэрнэце.

Апроч 365 новых малюнкаў, праект даў аўтарцы яшчэ і кнігу «Малюй кожны дзень: Адзін год з мастаком-ілюстратарам», якая ўжо стала амаль бестселерам. Менавіта гэтае выданне Наталі Раткоўскі прадставіла на сустрэчы з чытачамі ў Мінску. Імпрэза адбылася ў сталічнай кнігарні Oz.by.

— Большасць нашых заказчыкаў, кліентаў не ведаюць, як ілюстратары ствараюць малюнкі. Таму гэтая кніга для мяне была шансам распавесці людзям, якія не сутыкаюцца з ілюстрацыяй ці дызайнам, пра ўвесь працэс стварэння візуальных вобразаў, — распавяла Наталі. — Я невыпадкова змясціла ў кнізе свае замалёўкі з праекта «365» і паралельна паказала ілюстрацыі гэтага года. Нехта мудры сказаў: «Выберы для сябе любімы занятак, і табе ніколі не давядзецца працаваць». Дык вось мы, ілюстратары, па сутнасці, не працуем, а атрымліваем вялікае задавальненне. Але, з іншага боку, праца ніколі не заканчваецца. Мы не можам прыйсці дадому, адкласці пэндзлі і фарбы ўбок і адпачыць. Увесь час пра нешта думаем, марым, нешта заўважаем. З адпачынку не вяртаемся без стоса паштовачак, флаераў для новых ідэй, натхнення.

Над кнігай «Малюй кожны дзень» Наталі працавала разам з дызайнерам Таццянай Сырнікавай, але некаторыя старонкі цалкам афармляла сама, каб патлумачыць агульную канцэпцыю выдання. Паводле задумкі аўтаркі, мусіла атрымацца арт-кніга з элементамі розных творчых стыляў. Пэўна, усё атрымалася.

— У кнізе мне было важна паказаць: усё, што мы робім, — любыя замалёўкі, творчыя праекты — рана ці позна ператвараецца ў нешта прафесійнае, — разважае Наталі. — Часта кажуць, што маляванне дапамагае справіцца са складанымі жыццёвымі сітуацыямі. Для мяне 2012 год, калі я рэалізоўвала праект «365», быў вельмі напружаным псіхалагічна. Доўга разважала, ці варта сыходзіць з працы, таму гэтыя штодзённыя малюнкі сталі арт-тэрапеўтычнымі. Малявала што думала, што бачыла, і ў выніку ўдасканаліла не толькі сваю тэхніку, але і ўнутрана «перапрацавала» падзеі жыцця. Мне было важна, каб людзі зразумелі, наколькі важна працаваць проста для сябе, дзеля ўласнага задавальнення.

У кнізе ёсць яшчэ адзін схаваны сэнс, а таксама заканамернасць жыцця і працы мастакоў: што ні рабі, вынік у будучыні, а карані — у мінулым.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*ЛіМ-сувязі*

# «Гульні на краі Зямлі»: дарога да даляглядаў



*Фота Наталлі Асмола*

**Уражлівай сустрэчай з мастацтвам можна назваць чарговую выстаўку жывапісу, графікі і скульптуры, якая адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Аўтар работ — Каміль Камал, якога добра ведаюць як у Беларусі, так і ў іншых краінах.**

Невыпадковым падаецца і тое, што гасцямі выстаўкі сталі дзясяткі прадстаўнікоў розных дыяспар, якія ў міры і згодзе жывуць і працуюць у Беларусі. Каміль Камал па нацыянальнасці азербайджанец. Нарадзіўся ў Грузіі. На станаўленне мастака паўплывала вучэльня ў Санкт-Пецярбургу, дзе (тады яшчэ ў Ленінградзе) творца браў урокі прафесійнага майстэрства ў славутага ўраджэнца Беларусі — Яўсея Майсеенкі (геніяльны жывапісец родам з Гомельшчыны, Буда-Кашалёўшчыны, з Уварава, дзе цяпер ушаноўваюць яго памяць).

Сёлета Камілю Камалу споўнілася 60 гадоў. За плячыма — багатая калекцыя жывапісных і графічных работ. Не чужыя таленту і практыкаванні ў скульптуры. Гэта і невялікія работы ў бронзе, і помнікі, якія ўпрыгожваюць вуліцы і плошчы гарадоў. У прыватнасці — помнік Герою Савецкага Саюза Аслану Вязіраву.

Каміль Камал — асоба, вельмі чуйная да самых тонкіх зрухаў чалавечай душы, мастак, які кранальна спалучае ў сваёй творчасці розныя культуры — Усход і Захад — і імкнецца вывесці ўласную формулу рэалістычнага светабачання. Дэрвішы, жывёлы, жанчыны ў атачэнні незвычайных прыродных з'яў, адмысловая архітэктура, якая натуральна пападноўваецца з гарамі і неабсяжным небам, — усё гэта прыцягальнае і магнетычнае. Здаецца, і назва «Гульні на краі Зямлі» — невыпадковая, яна заварожвае, нагадвае пра межы і бязмежжа ў аднагачассе, робіць нашы памкненні смялейшымі і больш рашучымі. Каміль Камал — эксперыментатар у лепшым сэнсе гэтага слова, мо таму часам нечаканымі падаюцца колеры яго карцін.

У аднаго з гасцей выстаўкі я запытаўся пра тое, што вабіць у новай сустрэчы з мастацтвам. І вось што мне адказаў азербайджанскі паэт Чынгіз Аліаглу: «Мне бачыцца пэўная недагаворанасць, але яна якраз і прыцягальная… Асабліва спадабаліся графічныя пошукі мастака. Рыскі, штрыхі, выкладзеныя з велізарнай сілай экспрэсіі, здавалася б, зусім неўтаймаваныя, усё ж не здаюцца выпадковымі. За дакладна выверанымі кампазіцыямі я бачу жыццё і самога мастака, і яго герояў. Толькі трэба ўважліва ва ўсё гэта ўглядацца… Не ведаю, ці знаёмы Каміль Камал са сваім родным азербайджанскім нацыянальным мастацтвам, але мяркую, што недзе сэрцам, душою ён адчувае і Бахруза Кенгерлі, якому век адмерыў усяго трыццаць гадоў жыцця, і Сатара Бахлулзадэ, якога па праве лічаць заснавальнікам жанру пейзажа ў азербайджанскім жывапісе, і, канечне ж, Таіра Салахава… Так, «Апшэронскія жанчыны» Салахава не падобныя на «Прыгажуню» Каміля Камала. Але «Прыгажуня» беларускага мастака азербайджанскага паходжання — гэта азербайджанка ў Беларусі! Так, у Беларусі азербайджанка-прыгажуня! І ў яе вачах — беларускі сум, беларускія азёры і беларускае неба…»





*Чынгіз Аліаглу і Каміль Камал.*

Шмат добрых слоў на адкрыцці выстаўкі адрасавалі мастаку пісьменнікі Ганад Чарказян, Алесь Карлюкевіч, старшыня Нацыянальнага Саюза пісьменнікаў Арменіі Эдвард Мілітанян, мастакі, мастацтвазнаўцы Уладзімір Пракапцоў, Рыгор Данелян, людзі розных прафесій, якія аднолькава шчыра ўлюбёныя ў творчасць таленавітага шукальніка дасканалай прыгажосці, празорлівага руплівца на ніве выяўленчага мастацтва. Каміль Камал — з тых творцаў, каго даўно наспеў час прадставіць альбомам рэпрадукцый самых розных работ. Шкада, што такой падзеі яшчэ не адбылося ў нашым мастацтвазнаўстве, мастацкім кнігавыданні. А альбом патрэбны, ён дапоўніць выстаўку. Тым больш што па перыядычных выданнях Беларусі раскіданы дзясяткі артыкулаў пра выдатнага творцу, аўтары якіх — пісьменнікі, публіцысты, людзі, чуйныя да мастацтва: Галія Фатыхава, Алена Мальчэўская, Цімур Зульфікараў, Алесь Карлюкевіч, Ганад Чарказян, Уладзімір Сцяпан… Што ж, будзем чакаць і гэтай падзеі, якая, несумненна, стане адметнасцю культурнага жыцця краіны.

**Мікола МІРШЧЫНА**

# Ужо дзясяты!




У Санкт-Пецярбургу жыве журналіст, праваслаўны пісьменнік Аляксандр Ракаў. Ён лаўрэат Міжнароднай прэміі імя М. А. Шолахава, укладальнік вялікай паэтычнай кніжнай серыі, што выдаецца ў межах культурна-асветніцкай праграмы Санкт-Пецярбургскага аддзялення СП Расіі пісьменніцкім выдавецтвам «Дума».

Свет пабачыў ужо дзясяты том выбраных вершаў, сабраных і ўкладзеных нястомным папулярызатарам рускай і рускамоўнай паэзіі. Аўтар-укладальнік прадставіў як рускіх паэтаў, так і паэтычныя пераклады на рускую мову прадстаўнікоў іншых нацыянальных літаратур. Ракаў мае на мэце «даць сапраўдныя ўзоры паэзіі, якая не толькі дапамагае жыць, але і адкрывае новыя межы чалавечага быцця».

У дзясятым томе пададзена 1770 вершаў больш як тысячы аўтараў: ад М. Ламаносава да сучасных маладых творцаў. Шырока прадстаўлена руская класіка. Вельмі важка заяўлена паэзія Беларусі: вершы В. Блажэннага, М. Багдановіча, Р. Барадуліна, А. Аўруціна, С. Яўсеевай, І. Катлярова, М. Пазнякова, М. Чарняўскага, М. Шэлехава ды інш.

Да вершаў кожнага аўтара ўкладальнік дадае фота і ўказвае год нараджэння і месца жыхарства — не ўступаючы ў перапіску, а знаходзячы патрэбную інфармацыю ў выданнях Расіі ці ў інтэрнэце. Праца, выкананая ім, сапраўды каласальная, а чытаць такую кнігу, да таго ж выдатна афармленую і выдадзеную тыражом больш як тысяча экземпляраў, — незвычайная асалода.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Месца сустрэчы

Міжнародная канферэнцыя «Творчасць паэта і воіна Ігара Грыгор'ева і пісьменнікаў яго пакалення», прысвечаная 90-годдзю Ігара Мікалаевіча, адбылася ў Санкт-Пецярбургу ў Пушкінскім Доме (Інстытуце рускай літаратуры Расійскай акадэміі навук).

У ёй узялі ўдзел пісьменнікі, вучоныя, даследчыкі, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы, сваякі і прыхільнікі творчасці выдатнага рускага паэта з Расіі, Беларусі, Украіны. Нашу краіну прадстаўлялі кіраўнік аддзялення Пасольства Беларусі ў Расіі ў Санкт-Пецярбургу Сяргей Місурагін, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, доктар філалагічных навук і пісьменнік Анатоль Андрэеў, кандыдат псіхалагічных навук і пісьменніца Наталля Саветная, галоўны рэдактар газеты «Воскресение» паэтэса Алена Міхаленка, а таксама педагог-арганізатар Ільянскай сярэдняй школы Вілейскага раёна паэтэса Аксана Ярашонак.

Дзесяць гадоў дарослага жыцця (1953 — 1964) І. Грыгор'ева прайшлі на Віцебшчыне ў г. Гарадок, дзе ён напісаў пяць кніг паэзіі, авалодаў беларускай мовай і з асалодай перастварaў на рускую мову айчынную класіку і сучасную паэзію, друкуючы пераклады ў часопісе «Нёман». Тэме «Ігар Грыгор'еў і Беларусь» прысвяціў выступленне Міхась Пазнякоў. Феномену паэтычнага светаўспрымання І. Грыгор'ева было прысвечана выступленне Анатоля Андрэева, а Аксана Ярашонак спынілася на моўных асаблівасцях аповесці І. Грыгор'ева «Усё перамелецца».

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Хто такія райтары?

**Ці маюць права іх працы на месца ў гарадской прасторы? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні можна было атрымаць падчас выставачнага праекта бразільска-беларускага streetart-фестывалю «VULICABRASIL», які прайшоў у Мінску.**



Бразільска-беларуская інсталяцыя на плошчы Якуба Коласа.

Горад для пэўнай часткі мастакоў — аснова жыцця і творчасці, традыцыйнага бачання і эмацыянальных інавацый, дзе райтары адкрываюць свае думкі, перажыванні. Іх візітоўка — ноч, калі яны спрабуюць паказаць сваё мастацтва. Стрыт-арт — выклік, парушэнне межаў дазволенага класічнага мастацтва. Але не варта разумець яго толькі паводле сродкаў графіці, якое адсылае нас да сваёй гістарычнай радзімы — Нью-Ёрка 1960-х гадоў. Сёння постары, ілюстрацыі, трафарэты — гэта дапаможныя сродкі прэзентацыі, не



Фота Кастуся Дробава

Нацыянальная бібліятэка ў Мінску і аўтобус № 100.

кажучы пра розныя кшталту інсталяцыі і праекцыі.

Сучаснае бразільскае гарадское мастацтва — адно з самых аўтарытэтных у свеце. Стрыт-арт у гэтай лацінаамерыканскай краіне — прызнаная і паважаная форма артыстычнага самавыяўлення. Работы мастакі дэманструюць у грамадскіх месцах, іх падтрымліваюць на дзяржаўным, рэгіянальным і муніцыпальным узроўнях. У Сан-Паўлу кожны год на працягу месяца праходзіць фестываль Graffiti Fine Art Biennial, у якім бяруць удзел лепшыя майстры свету. Бразільскія мастакі вылучаюцца яркімі каларыстычнымі рашэннямі, манументальнымі сродкамі абагульнення і лічацца сусветна вядомымі зоркамі ад раёнаў і кварталаў да дзяржаўных музеяў і камерцыйных галерэй. Вулічнае мастацтва заўсёды падкрэслівае сацыяльную скіраванасць, а такія яго бразільскія формы, як капаэйра і стрыт-арт, толькі ўзмацняюць гэты аспект.

Беларуская рэалія, у процівагу, дэманструе шэра-бура-малінавы «фупрэматызм», альбо фундаментальны супрэматызм (аўтар тэрміна мастацтвазнаўца Вольга Архіпава), які стаў не менш прывабным даследчым праектам для многіх мастацтвазнаўцаў, культуролагаў і канцэптуальным праектам для фатографаў і актывістаў гарадской прасторы. Дзякуючы праекту «MustAct-MustArt», які арганізавала стрыт-арт-супольнасць «Signal», мы можам убачыць творы прафесійнай каманды мастакоў у такіх гарадах, як Магілёў, Гомель, Баранавічы, Гродна, Рагачоў. Але што рабіць астатнім райтарам, якія не жадаюць упісвацца ў межы супольнасцей? І хто ўвогуле мае права характарызаваць працу на наяўнасць яе месца ў гарадской прасторы?

Праект «VULICABRASIL» упершыню прапанаваў бліжэй пазнаёміць Беларусь са стрыт-артам бразільскіх мастакоў (Ос Жэміос (Osgemeos), Ціньо (Tinho), Ражэрыа Фернандэс (Rogério Fernandes) і іх супрацоўніцтвам з беларускімі майстрамі вулічнага мастацтва: Cowek (Ліда), Андрэй Бусел (Мінск), Mutus (Пінск), Kontra (Мінск), Bazinato (Мінск), Ura (Віцебск), Khvostov (Гомель), Сяргей Паўлавец (Маладзечна) і інш. Падчас фэсту, як у гарадской прасторы, так і на пляцоўцы Цэнтра сучасных мастацтваў, бразільска-беларуская каманда ўтварыла аўтаномны горад з уласнымі законамі і правіламі ўрбаністычнага асяроддзя, дэманструючы гэта праз графіці, трафарэты, постары, інсталяцыі, фатаграфіі і г. д. Адметнасцю экспазіцыі сталі мадэлі славутых аб'ектаў Бразіліі і Беларусі (архітэктар Андрэй Бусел), дзе мастакі эксперыментавалі ў асацыяцыях, трансфармуючы візуальныя ўражанні дзвюх краін.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Цуд з металалому

**Рэспубліканская мастацкая выстаўка «Разумны метал» заняла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адразу дзве галерэі — «Лабірынт» і «Ракурс».**

Прафесійныя мастакі-металісты (Віктар Старухін, Аляксей Літвінаў, Валерый Малахаў), мастакі-жывапісцы (Зоя Луцэвіч, Генадзь Козел), скульптары-станкавісты (Віктар Копач, Алег Купрыянаў, Уладзімір Слабодчыкаў), дызайнеры (Дзмітрый Сурскі), мастакі тэкстылю (Людміла Пятруль, Ніна Пілюзіна) — каля 70 удзельнікаў з усёй краіны, паказалі, што метал валодае ўнікальнымі выяўленчымі магчымасцямі і мастацкімі ўласцівасцямі.

— Ідэя «Разумнага металу» нарадзілася ў выніку стасункаў з выпускнікамі Акадэміі мастацтваў Беларусі, — распавяла аўтар выстаўкі і яе куратар, мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн. — Экспазіцыя паказвае, што метал шматаблічны: ён моцны, як атлет, пяшчотны, як дзіця, ажурны, як карункі...

— Гэта не прамысловая выстаўка, якіх я нямала пабачыў на Захадзе, — адзначыў госць — народны артыст Беларусі рэжысёр Барыс Луцэнка. — Тут метал напаўняецца сэнсам, метафарамі. Нават іржа можа хваляваць! Адметныя




Алесь Суровы «Сівая легенда». 2008 г.



Фота Кастуся Дробава

Іван Перагінец «Крэйсер аГародня». 2014 г.

працы Сяргея Шылы «Свет ля мікрафона», «Вулічная аб'ява» Зоі Луцэвіч, «Прадаюцца запчасткі да чалавечай душы» Тадэвуша Івінскага.

Падчас адкрыцця выстаўкі кіраўнік Беларускага саюза дызайнераў Дзмітрый Сурскі ўспомніў, як яго бацька, Алег Сурскі, вучыў разгадваць характар металічных прадметаў, збіраў металалом і рабіў з яго рэчы, якія станавіліся творамі мастацтва.

У выстаўцы «Разумны метал» узялі ўдзел прафесійныя кавалі, мастакі-канцэптуалісты (Уладзімір Цэслер, Максім Пятруль, Васіль Васільеў), дызайнер Леў Агібалаў ды многія іншыя.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2285.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 27.11.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4626.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686